«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (207), лістапад 2023 года



# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 11 (207) (лістапад)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


## Змест




**АКТУАЛІІ:** эсэ Аляксея РАГУЛІ «“Вялікі Сход” і сіла нацыі» ... с. 1
**ЮБІЛЕЙ:** артыкул Аліка АКУЛІЧА «Беларускія лабірынты: дзяржаватворная канцэпцыя Вацлава ЛАСТОЎСКАГА» ... с. 2
**ЮБІЛЕЙ:** роздум-эсэ Тамары АЎСЯННІКАВАЙ «Яўгенія ЯНІШЧЫЦ: загадкавы палёт» ... с. 3
**ПРОЗА:** фантасмагарычнае апавяданне Станіслава СУДНІКА «Мама, дай!» ... с. 4
**ПАЭЗІЯ:** нізка вершаў Ірыны БАГДАНОВІЧ «Перапляценні» ... с. 5
**ЧЫТАЛЬНЯ:** новыя апавяданні Людмілы АНДЗІЛЕЎКА ... с. 6, 7
**ПАЭЗІЯ:** нізка вершаў Віктара САЗОНАВА «Закон Нябёс» ... с. 8
**ПРОЗА:** два апавяданні Уладзіміра ВАСЬКО ... с. 9
**КРЫТЫКА:** «Спыніся, імгненне! Спыніся, Яўгенія!» — Тамара АЎСЯННІКАВА пра верш Анатоля ВЯРЦІНСКАГА, прысвечаны Яўгеніі ЯНІШЧЫЦ ... с. 10
**ГІСТОРЫІ:** артыкул Алены ДАРАФЕЕВАЙ пра класіка шведскай літаратуры — «“У свеце госць”: Пэр Фабіян ЛАГЕРКВІСТ» ... с. 11
**СВЕТ:** навіны і цікавосткі літаратурнага замежжа ... с. 12


**АКТУАЛІІ**

# «Вялікі Сход» і сіла нацыі



Аляксей РАГУЛЯ



Фота belarus.travel

Вялікае, кажуць мудрыя, бачыцца на адлегласці. Часцей за ўсё — на адлегласці часу. А калі больш дакладна — дык «па часе», запознена.

Ці не тое ж адбылося з нацыянальным адраджэнскім рухам у ХХ стагоддзі?

Няўжо сусветныя войны, сатанінскія сацыяльныя эксперыменты, фабрыкі смерці, тэрарызм, глабальнае спустошанне жыццёвай прасторы з'яўляюцца абавязковай заканамернасцю эвалюцыі чалавека разумнага?

І чаму б, хоць і па часе, сучаснаму чалавеку не задумацца над пытаннем: якім шляхам магла б пайсці еўрапейская гісторыя ў залітым крывёю ХХ стагоддзі, калі б будучыню планаваў, кажучы словамі Янкі Купалы, «Вялікі сход», агул суверэнных народаў, а не тайныя змовы Вялікага інквізітара з Вялікім злодзеем? Два апошнія — гэта з мастацкіх твораў, адпаведна Фёдара Дастаеўскага і Кузьмы Чорнага.

Калі ж зазірнуць у генезіс глыбей, дык убачым папярэджанне аб пагрозе, пакінутае нашчадкам продкамі з таго далёкага часу, калі ўся чалавечая культура была чалавеку роднай, па-цяперашняму — народнай. Вось тады супольны чалавечы розум, які выдатныя філосафы пазней справядліва назвалі Абсалютным духам, убачыў страшную пагрозу на гістарычнай дарозе чалавека — вялікага Змея-злодзея.

Было гэта ў часы, якія вучоныя абазначылі як эпоху неалітычнай аграрнай рэвалюцыі. Рэвалюцыя цягнулася на працягу тысячагоддзяў.

Відаць, ёсць больш падстаў для таго, каб эпоху фармавання земляробчага календара назваць эпохай эстэтычнай эвалюцыі чалавека. Тады якраз Зямелька-маці ўскарміла чалавека і дала яго зроку і слыху новыя сілы, каб бачыць і чуць хараство зямнога быцця. Тады і сфармаваліся асновы фальклорнай «рэчавай» эстэтыкі. Сёння вучоныя людзі яе нанова адкрываюць — ужо як эстэтыку фенаменалагічную. Пройдзе няшмат часу, і яны прызнаюць, што гуманістычны прагрэс знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад узроўню фальклярызацыі культуры. Не ўсе плямёны і этнасы пачулі ў свой час «голас Зямлі», не ўсе сталі творцамі вартых чалавека форм жыцця. Знайшліся такія, што за ўзор існавання выбралі мадэль Цмока: жыць з разбою, жыць вайною.

На зары цывілізацыйнага развіцця чалавецтва стаяла на ростанях дарог Каіна і Авеля. У крывавым, паводле дактрыны Васіля Быкава, тумане ХХ стагоддзя не кожнаму па сіле ўбачыць, хто па-сапраўднаму свой чалавек, а хто ў двукоссі «свой» і ў двукоссі «чалавек». Знайшліся і «купленыя прарокі», названыя чамусьці філосафамі, якія высмеялі абсалютную чысціню ідэалаў, маральнасць, хараство і тых, хто намагаецца адшукаць у жыцці нейкі сэнс.

А знайсці яго неабходна, бо інакш глабальная катастрофа немінучая. Адшукаць жа чалавечы сэнс можна ў кнізе чалавечага быцця — у гісторыі сацыягенезу і культурагенезу. Гэты вопыт адлюстраваны ў вялікай Кнізе духоўнага станаўлення — у сукупным тэксце земляробчага календара. Сёння ён завецца *народная культура*.

У другой палове ХХ стагоддзя расслянёная беларуская вёска змагла даць нацыі яшчэ адно пакаленне народнай інтэлігенцыі — настаўнікаў і творцаў. Гэтая праслойка і ўзяла на сябе адказнасць за захаванне, трансляцыю і развіццё народнай культуры. Уся праца вялася ва ўмовах масіраванай атакі з боку глабалізаванай індустрыі маскультуры, больш дакладна — антыкультуры...

Людзей нашага часу аб'ядноўвае ў новае чалавецтва не так званая «папса», на якую сёння працуе магутная індустрыя абясцэньвання, а агульначалавечыя каштоўнасці народнай культуры.

Прынцып «чалавек — гэта цэлы свет», характэрны для народнай культуры, вызначыў гуманістычны напрамак духоўнага жыцця беларускай нацыі ў ХХ стагоддзі.

Найбольш плённа гэты падыход сёння дзейнічае ў мастацкай літаратуры, бо сама беларуская мова з'яўляецца носьбітам людскасці ў краі. Выхаваная ў духу народнага халістычнага (цэласнага) светаўспрымання педагагічная інтэлігенцыя праявіла сваю самастойнасць у здольнасці актыўнага непрыняцця дэканструктывізму.

Мусіраванне афіцыйнай педагогікай пагоні за найноўшымі «тэхналогіямі» занадта часта канчаецца нівеліроўкай, а то і перакрэсліваннем асобы педагога, пазбаўленага грунту, на якім будуецца духоўная повязь з выхаванцамі.

У выніку ў сённяшнім пакаленні маладых настаўнікаў ёсць нямала такіх, што не валодаюць культурай зносін з вучнямі.

Патрэба ў смелым звароце да гісторыка-культурнай рэальнасці і разрыву з афіцыёзнымі канцэпцыямі народнай культуры ўжо даўно агучана ў працах Уладзіміра Конана. У свае апошнія часы філосаф рэзка крытыкаваў «магільшчыкаў» — заснавальнікаў канцэпцыі адмірання фальклору. У працы «Беларускі фальклор як мастацкая сістэма: праблемы актуалізацыі, эстэтыкі і паэтыкі» выходны тэзіс даследчыка можа быць і сёння ўзяты як прынцып сучаснага комплекснага даследавання: «Адбываюцца ўзаемадзеянне і ўзаемапранікненне фальклору і прафесійнай мастацкай творчасці».

Беларускі фальклор — народная мудрасць — сёння жыве ў лепшых дасягненнях найноўшага часу.

Зрэшты, «нефармальныя» педагогі і творцы ніколі не супрацьпастаўлялі сапраўдную народнасць у фальклоры і прафесійнай творчасці ды ніколі не прымалі гэтак званую «афіцыйную народнасць» і гэтак званую «культуру для народа».

...Так узрастае духоўная сіла нацыі, здольнай уплываць на станаўленне чалавечага агулу ў культурным краі.

---

Янка КУПАЛА

**Лістапад**

З буйных ліп і бяроз
Лісты валяцца.
Між павалаў і лоз
Рассыпаюцца.

Шапацяць, шалясцяць,
Залацістыя,
Ўвысь галінкі глядзяць
Пусталістыя.

А як прыйдзе вясна —
Ўсё адменіцца,
І галінкі ізноў
Зазяленяцца.

Якуб КОЛАС

**Восень**

Пуста ў лузе. Толькі стогі
Парыжэўшыя стаяць,
Ды шпакі каля дарогі
Цэлы дзень адно крычаць.

Грэчка зжата. Гола ў полі.
Жыта звезена даўно.
Толькі плаваюць на волі
Кучы хмар, як валакно.

Дожджык сее беспрастанку;
Вецер свішча так, як звер...
Колькі лужын каля ганку!
А гразі, гразі цяпер!

Ссохлі травы, ўсё павяла.
Слоцць, плюхота, холад, цьма.
Эх, скарэй бы закрывала
Зямлю чорную зіма!

Генадзь БУРАЎКІН

**Непрыкметна падступіла восень**

Непрыкметна падступіла восень —
Хутка пацямнела неба просінь,
Выстылі маўклівыя прасторы,
Не гарыць касцёр на касагоры
І плывуць ад лесу і з прылукі
Сумныя, прыцішаныя гукі.
Гэта, змыўшы жнівеньскія цені,
Несуцешна плача свет асенні.
Плача вецер над зламаный слівай.
Плача неба над нязжатай нівай.
Над свінцовай роўняддзю затокі
Горка плача лебедзь адзінокі.
А між іх душа мая, няйначай,
Над самой сабой журботна плача.

Людміла ШЧЭРБА

***

Трыццаць хвілін лістапада...
З лета ў зіму — праездам.
Восень каардынаты
у навігатар занесла.

Трыццаць хвілін на сустрэчу
лёс адмярае хціва —
ставіць ў жыцці чалавечым
толькі імператывы.

Трыццаць хвілін лістапада
проста пастой са мною —
нібы на барыкадах.
Быццам прад аналоем.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (207), лістапад 2023 года

# Беларускія лабірынты: дзяржаватворная канцэпцыя Вацлава ЛАСТОЎСКАГА

Алік АКУЛІЧ

***Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі — паэт, празаік, драматург, публіцыст, літаратура- і мовазнаўца, гісторык, выдавец, палітычны дзеяч, дыпламат — нарадзіўся 140 гадоў таму 8 лістапада (27 кастрычніка па старым стылі); у 35 стаў кіраўніком БНР (старшынёй Рады, прэм'ер-міністрам), у 45 — акадэмікам Акадэміі навук Беларусі; знішчаны бальшавіцкай уладай у 55-цігадовым веку і рэабілітаваны яе спадчыннікамі адным з апошніх — праз 50 гадоў пасля расстрэлу (па першым прысудзе рэабілітаваны 10 чэрвеня 1988 года, адноўлены ў званні акадэміка АН Беларусі ў 1990-м). На скрыжалях Беларускай Кнігі пад ягоным імем гісторыяй навечна ўпісаны словы-вызначэнні:* творца і дзяржаўнік.**

Станаўленне беларускай дзяржаўнасці адбывалася ў ідэйным суплёце з развіццём мастацтва: палітыка ядналася з творчасцю. Беларуская літаратура з пачатку XX стагоддзя прапагандавала два асноўныя канцэпты мадэлі нацыянальнага дзяржаваўладкавання, натхнёна запазычаныя са спратаў гісторыі: Крывію (старажытнае Полацкае княства) і Вялікае Княства Літоўскае.

Адным з першых мастацкую праграму ўсведамлення будучага Беларускай Краіны праз асэнсаванне яе мінуўшчыны і прапанаваў пісьменнік-энцыклапедыст, палітык еўрапейскага маштабу Вацлаў Ластоўскі. Галоўная ідэя яго твораў — адраджэнска-нацыянальная, а тэма — сцвярджэнне самабытнасці беларускага народа.

Болесныя роздумы над лёсам Бацькаўшчыны прывялі В. Ластоўскага ў пракаветныя лабірынты-таямніцы беларускай душы — у міфічную Крывію. Яго найбольш вядомы празаічны твор — аповесць «Лабірынты» — стаў узорам рамантычнай прозы на гістарычную тэму. Аднак, думаецца, гістарызм «Лабірынтаў» — ужо «паслявальтэрскотаўскі», гістарызм найперш інтэлектуальны, бо на парозе ўжо было XX стагоддзе, самы яго разгар, і таму проза В. Ластоўскага 20-х гадоў адчувала павевы новага мастацкага мыслення, звязанага з эпохай мадэрнізму. Тыя павевы мадыфікавала ўласная нацыянальная глеба, напаўнялі змястоўнасцю задачы новага беларускага адраджэння і адпаведныя гісторыка-культурныя асацыяцыі.

«Лабірынты» — сплаў філасофска-культурных напрацовак (да ўсяго — мінітрактатаў па гісторыі сусветнай міфалогіі, народнай астраноміі, этнаграфіі) і мастацкай містыфікацыі гісторыка-міфалагічнага кшталту, духоўная аснова беларускай Крывіі, адна з першых фундаментальных мастацкіх канструкцый нацыянальнай канцэпцыі быцця.



Вацлаў Ластоўскі

Шмат у чым аўтабіяграфічнаму герою «Лабірынтаў» у круглай падземнай «салі» адкрыўся пракаветны алімп дахрысціянскіх продкаў: славянская Троіца і «сем галоўных сіл, уладаючых светам»: Кон (Конязь) з сімвалам сонца, Княжыч (Месяц) з сімвалам маладзіка, Ярыла з сімвалам Марса, Радзігост з сімвалам Меркурыя, Пярун-Грамавік, Грамавіца з сімвалам Венеры і Лада (Ладон) з сімвалам Сатурна. «Ніжэй гэтых сямёх асоб маецца дванаццаць сімвалаў, азначаючых дванаццаць знакаў Задыяка, а пад імі — чатыры вятры, бытуючыя на чатырох канцах зямлі <…> У самым нізе было <…> царства смерці, дом вечнай цемры з яго жыхарамі. На першым плане былі дзве галоўныя фігуры: Люцец, Люты (Pluto), або Кашча Бяссмертны, і яго жана — Марва».

Міфалагічныя, тэасофскія, фальклорныя, навуковыя і ўласнамастацкія штудыі ў «Лабірынтах», па вялікім рахунку, былі скіраваны на асвятленне актуальных праблем сучаснасці, яны, як адчуваў і сам В. Ластоўскі, дапамагаюць раскрываць «сімвал пройдзенай народам гісторыі». «Нягледзя на тое, што даўно па-свойму рашыў Юпітэр зямельнае права, права гэта да сягоння несправядлівае. І будзе датуль актуальным, пакуль кожны народ не станецца гаспадаром у сваім краі, — наўпрост выводзіць В. Ластоўскі паралелі ў сваю рэальнасць, — пакуль кожны, хто палівае сваім потам загон, не будзе праўным, прызнаным і ўсвячоным правам яго валадаром. Гэты ж час ужо недалёк!».

Таму, думаецца, называць «Лабірынты» В. Ластоўскага ўтопіяй (як выказваліся некаторыя навукоўцы) можна толькі ў вузкалітаратурным значэнні, бо традыцыйная філасофская трактоўка паняцця ўтопіі — як мадэлі прыдуманага ідэальнага грамадства — аніяк не магла адпавядаць задумам і ідэям В. Ластоўскага, які, выпісваючы ў «Лабірынтах» мадэль-ідэал духоўнага і сацыяльнага ўладкавання сваёй краіны, хоць і з рамантычным, ідэалістычным флёрам, усё ж высільваўся перакanaць у непрыдуманасці, колішняй рэальнасці, фундаментальнасці вымалёванай мадэлі быцця, пераканаць у яе трывалых падмурках, якія закладваліся цягам доўгіх стагоддзяў і працай (найперш духоўнай) многіх пакаленняў крывічоў-беларусаў. Менавіта адсюль у аповесці — шмат спасылак і зносак на навуковыя працы, «рэдактарскія» прыпісы, угрунтаваны тэрміналагічны апарат, насычанасць сімволікай, паняццямі міфалогіі, эзатэрыкі.

Больш правільна, думаецца, пра «Лабірынты» трэба гаварыць як пра нацыянальную містэрыю, дзе апісаны народны духоўны космас і асноўныя вехі нацыянальнага культурнага станаўлення, як пра адмысловую нацыянальную практопію, створаную на аснове старажытнай беларускай гісторыі.

Калі бальшавіцкая дагматыка пачала, прафануючы, дапасоўваць беларускую нацыянальную ідэю да ідэалогіі прарасійскай БССР, некаторыя беларускія творцы (і адным з першых В. Ластоўскі), адчуўшы фальш і падман, сталі выяўляць нацыянальную ідэю ў вобразе міфічнай Крывіі.

Крывія — тая міфапрастора, якую ўжо не маглі ні паланіць, ні скарыць аніякія чужынцы.

Крывія для беларускіх творцаў — як вечны Акропаль для грэкаў.

Крывія — і ўсё тыя ж духоўныя лабірынты, і духоўны супраціў, эміграцыя ў саміх сябе.

Крывія — на стагоддзе шырэйшая і на пакаленні багацейшая ў сваёй адраджэнска-эстэтычнай сутнасці мастацкая трансфармацыя беларускай нацыянальнай ідэі, — у параўнанні з «лабірынтамі» творцаў XIX стагоддзя.

Філаматы і філарэты (Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Тамаш Зан і іншыя) у выглядзе ліцвінізма патэнтавалі адно своеасаблівую мутацыю старабеларускасці і нацыянальнай ідэі, «крывізм» жа на пачатку 20-х гадоў XX ст. рабіўся новай сімвалічна абгрунтаванай канцэпцыяй нацыянальнага быцця беларусаў.

Адной з частак аповесці «Лабірынты», яе ўмоўным працягам (ці, правільней, пачаткам) можна лічыць і «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» В. Ластоўскага. Гэта — біблія крывіцкай душы, якая яшчэ раз «узаконьвала» думку аб тым, што «ісконе бе слово» і на пачатку кожнай нацыі была мова. Прадмова да «Слоўніка» В. Ластоўскага (па сутнасці — верш у прозе) стала шыфрам-ключом да ўсёй працы. У прадмове тэзісна выкладзена — па перыядах — уся гісторыя «Крывіі»: «На зарані гістарычных часоў наш народ выступае як сарганізаванае цэлае, нацыянальнае і палітычнае, пад найменнем Крывічы. <…> у перыёд ад прыняцця хрысціянства да запанавання новай, літоўскай дынастыі, наступае замяшанне ў паняццях: народ Крывічы, якім яго ўсе кругом называюць, хочучы адзначыць сваю прыналежнасць да хрысціянства ўсходняга абрадку, мянуе сябе <…> Русамі, Руссю».

Крыўска-рускую дынастыю, паводле В. Ластоўскага, у XIII стагоддзі змяняе літоўская, замест наймення «Крывічы» пачынае ўжывацца «Літва». Гэта — другі перыяд, «які трываў немаль да канца XVIII ст. <…> Дзяржаўна — Літва, па веравызнанні — Русь. Па гэтай старой памяці ў палуднёвых і ўсходніх паветах <…> дагэтуль наш народ называе сябе Літвінамі».

Трэці перыяд у гісторыі развіцця беларуска-крыўскага народа, на думку В. Ластоўскага, быў літоўска-польскім, калі беларуская шляхта пачувалася патрыётамі літоўскімі, «а па культуры і веры мела сябе за палякаў».

Пад расійскім панаваннем праходзіў перыяд чацвёрты — расійска-беларускі, калі «ад народу адпадае рэшта грамадскіх вярхоў, тонучы ў расійскай самадзяржаўнасці і называючы сябе <…> «рускімі» <…> Гэты перыяд замацаваў яшчэ адно найменне — Беларусы».




Вокладка «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага, 1926 г.

Распачынаючы новую хвалю беларускага нацыянальнага Адраджэння, В. Ластоўскі імкнуўся (у некаторых выпадках нават і праз містыфікацыю) выявіць канцэптуальныя першавытокі станаўлення нашай дзяржаўнасці, высвеціць да самых «каранёў» нацыянальную ідэю. «Цяперашняе нацыянальнае адраджэнне нашае пачалося не са старых абсохшых галін, а з каранёў народных, — пісаў ён у той жа «Прадмове». — <…> не выракаючыся культурных здабыткаў, прыдбаных у нашу нацыянальную скарбніцу пад найменнем «Русь», «Літва» <…>, хочучы быць самастойным славянскім народам, выносіць з гісторыі нашай і нашага народу на свет прастарое племяннное і нацыянальнае сваё найменне — Крывічы».

Сваю крыўскую ідэю В. Ластоўскі працягваў развіваць і ў навукова-папулярных артыкулах: «Крыўскі варыянт быліны аб Іллі Мурамцы» (1924), «Крыўскі (Беларускі) старадаўні лістоўны стыль» (1924), «Аб назовах «Крывія» і «Беларусь»» (1925). Апошні найбліжэй стаіць да згаданай «Прадмовы», датлумачвае і пашырае яе высновы: «Жаданне паставіць на годную вышыню імя «крывічы» лагічна выплывае з разумення адраджэнча-нацыянальнага руху <…>. Крыўскае адраджэнне ад сваіх першых пачаткаў мае на мэце злучыць разбіты гістарычнымі падзеямі вялікі і слаўны крыўскі народ духова і фізічна <…>. Як "беларусы" мы — толькі адбіццё агульнарускай індывідуальнасці, нейкі "промежуток и недоумок", але як "крывічы" — мы асобны індывідуум, асобнае славянскае племя са сваёй багатай мінуўшчынай, сваёй асобнай мовай, тэрыторыямі і духовай творчасцю».

Ідэі Вацлава Ластоўскага ў многім прадвызначылі кірункі далейшага развіцця беларускай літаратуры. Крывія Вацлава Ластоўскага займела сотні прадаўжальнікаў — як у тэарэтычна-навуковым, так і ў «практычна-літаратурным» увасабленні, займела сотні сваіх адданых «грамадзянаў»: ад узвышаўцаў Уладзімера Дубоўкі і Уладзімера Жылкі да літаратараў канца XX стагоддзя.

Вацлаў Ластоўскі ўпершыню ў беларускай літаратуры, узвысіўшыся над простай аналітычнай ілюстрацыйнасцю, даў грунтоўнае, цэльнае і кампактнае ўвасабленне нацыянальнай канцэпцыі быцця, фундаментальнымі катэгорыямі якой выводзіліся міфалагічнае светабачанне, гістарычная самасвядомасць, актыўнае выкарыстанне дасягненняў традыцыйных навук (з пераважным акцэнтам культуразнаўчай галіны), родная мова і, як неадменны сацыяльны і культурны гарант, — незалежнае дзяржаўнае існаванне ў дзейсным сусветным узаемаабмене матэрыяльнымі і культурнымі набыткамі.




Бюст творцы ў Глыбокім

# Яўгенія ЯНІШЧЫЦ: загадкавы палёт

Тамара АЎСЯННІКАВА

*Жыццё мае, і там, на схіле,*
*Ты ўсё — загадкавы палёт.*

***Я. Янішчыц***

Сёлета — 20 лістапада — спаўняецца 75 гадоў з дня нараджэння і — 25 лістапада — 35 гадоў з дня трагічнай смерці знакамітай беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц, загадка якой і да нашых дзён цалкам не раскрыта.

Абранасць лёсу творцы пры яго жыцці мы не заўсёды заўважаем. Аднак пра Яўгенію Янішчыц гэтага сказаць нельга. Яна была і заўважанай, і ацэненай. Але ж дачасна пакінуўшы жыццё, прыцягнула да сябе яшчэ больш пільную ўвагу. Паўстаюць пытанні: чаму? Што стала прычынай?

Ёсць некалькі версій… Я не згодна з тымі, хто лічыць прычынай самагубства нешчаслівае каханне. Не трэба глядзець так аднабока. Сама паэтка пісала:

*Гатовая да ўсмешкі-запытання,*
*Да стоенай насмешкі з-за вугла,*
*Спазнала толькі я азы кахання?*
*Ды і ў такім — няшчаснай не была.*

(«Спроба сентыментальнага раманса».)

Каханне можа быць узаемным або не. Ды калі яно было, то гэта ўжо шчасце. І не цяжка здагадацца, якое каханне прыносіць мастаку больш плён. Да таго ж слова «каханне» ў паэзіі Я. Янішчыц сустракаецца не так і часта. Яна карыстаецца словам «люблю», якое мае больш шырокае значэнне, чым «кахаю»:

*І тут, дзе радасць дыхае вяснова,*
*Дзе Млечны Шлях спадае на зямлю,*
*Я светла прыпаду да дзеяслова*
*Твайго,*
*з маёй слязінаю «люблю».*

Гэта радкі з верша «Паўночная зара». Майстэрства паэткі тут раскрываецца праз мнагазначнасць выказанай думкі. Слова «люблю» з верша можна аднесці і да каханага, і да паэзіі. Любоў і паэзія для Янішчыц непадзельныя.

Першую кнігу яна хацела назваць «Непрыручаная птушка», але была напісана пародыя на аднайменны верш — і назву кнігі яна змяніла на «Снежныя грамніцы». Я. Янішчыц хацела мець для першай кнігі чырвоную вокладку, але ў чырвонай выйшла першая кніга Ніны Мацяш. Жэня лічыла, што «чырвоны колер Ніначцы дасць сілу». Для сваёй кнігі яна выбрала колер неба — блакітны. На вокладцы — фотаздымак. Ён характарызуе яго аўтара як таленавітага майстра, які зазірнуў не толькі ў душу паэта, але і ў яго будучыню. Гэта маё асабістае бачанне. Я адчувала трагізм пры першым жа поглядзе на фотаздымак. Тады, у 1970 годзе, я адганяла ад сябе страшную думку. Але яна ўзнікала кожны раз, калі мне трапляўся на вочы той здымак. Маё ўспрыманне не змянілася і сёння. Мушу заўважыць, што менавіта тым фотаздымкам Я. Янішчыц закальцавала свій творчы шлях, змясціўшы яго ў апошняй кнізе выбранага — «У шуме жытняга святла». Ужо з самага пачатку ўсё складвалася не так, як планавала паэтка.

Верш «Непрыручаная птушка» заканчваецца радкамі:

*Мяне ў палёце не скарылі.*
*А будзе што не так — малю:*
*Скруціце стомленае крылле*
*І кіньце ў родную раллю.*



Яўгенія Янішчыц

Што ж стала не так? Чаму Янішчыц пайшла з жыцця? Талент — гэта не толькі дар, але і крыж, які павінен несці абраны Богам. Палеская дзяўчынка, птушкай узляцеўшы на літаратурны Парнас, сама абравала палёт. Мабыць, прыцягненне Зямлі аказалася настолькі моцным…

Не так даўно мне трапіў у рукі матэрыял ненадрукаванай кнігі Мікалая Еляняўскага, вельмі цікавы і патрэбны для разумення асобы Я. Янішчыц. Еляняўскі паспеў запісаць успаміны Марыі Андрэеўны, маці паэткі. Там я прачытала, як Жэня, яшчэ малой дзяўчынкай, ледзьве не ўтапілася ў Ясельдзе. Марыя Андрэеўна расказвала: «Ёсць там вір. Месца глыбокае. Вось хлопцы, хто старэйшы, у гэты вір нырца давалі, а потым выплывалі. Малых туды не пускалі. Магло закруціць. Што Жэню да гэтага віра штурханула, ніхто не ведае. Яна сказала хлопцам: «Думаеце, што толькі вы адны такія смелыя. Я тожа магу». Хлопцы пачалі смяяцца, а яна разагналася па беразе — і боўць у вір. Ну, і выплыць сама не змагла». Падлеткі яе выцягнулі, адкачалі. І калі Марыя Андрэеўна прыбегла, нехта з іх заўважыў: «Цётка Марыя, яна маўчыць, як на тым свеце пабывала». Хто ведае, можа, і пабывала. Містыкі сцвярджаюць, што тым, хто аказаўся перад тварам смерці ці перажыў клінічную смерць, часта адкрываецца нейкі дар. Яны па-іншаму пачынаюць успрымаць свет. І мы не можам ігнараваць факт з біяграфіі Янішчыц, які мог паспрыяць раскрыццю паэтычнага таленту.

Маці ўспамінала, што Жэня часта сядзела каля таго віру, глядзела на ваду і аб нечым сваім думала. А на страхі маці гаварыла: «Ведаеш, матуля, так цягне, там такая бездань, аблокі ў ім (у віры — *Т. А.*) плывуць, як недзе ў другім жыцці. Там, нават, і не вада зусім, а нешта такое, магнітнае».

Я прапаную чытачу паглядзець на фотаздымак са зборніка «Снежныя грамніцы», аб якім вялася гаворка раней. У мяне такое ўражанне, што Жэня глядзіць у той ясяльдзянскі вір…

І колькі разоў Я. Янішчыц за свае 40 гадоў сутыкнулася са смерцю! Другі выпадак таксама быў звязаны з водою. У 1964-м Жэня стала пераможцай літаратурнага радыёконкурсу часопіса «Бярозка» і была ўзнагароджана пуцёўкаю на возера Нарач. У час купання ў возеры яна раптоўна пачала тануць. На дапамогу падаспеў Анатоль Грачанікаў. У Магілёве Жэня трапіла пад колы хуткай дапамогі. Так, нечая рука адводзіла смерць ад паэткі тройчы. Сакральнасць лічбы відавочная…

У аснове творчасці паэта ляжыць слова. І значэнне слова ў паэзіі не такое, як у зносінах. Яно мае магічную сілу ўздзеяння, можа матэрыялізавацца. Сапраўдны творца піша не як пісьменнік, а як маг. Таму да слова трэба адносіцца з вялікай павагай і асцярожнасцю, каб нашыя думкі, выказаныя ўслых ці на паперы, не аказаліся намерам Бога. За прыкладамі хадзіць далёка не трэба — гэта творчыя лёсы М. Рубцова, У. Маякоўскага, М. Цвятаевай, С. Ясеніна і іншых. У Я. Янішчыц таксама ёсць вершы, якія маглі паўплываць на яе лёс. Напрыклад: «Не дакарала, не журыла», «Вунь першая хмара павісла бянтэжна над краем» («Ясельда»); «Жывіце і любіце» («На беразе пляча»); «Яшчэ не збыты ўспамін», «На ўсякі выпадак…», «На голас ліры» («Каліна зімы») і іншыя.

Тамара Каленікава, нашая сакурсніца, была сведкаю ў студэнцкія гады аднаго Жэнінага выказвання, якое ўспрыняла як браваду маладой паэткі: «Я пражыву 40 гадоў». Гэтыя словы Тамара ўспомніла, калі Жэні не стала. А Алег Лойка ў артыкуле «Кладачка тоненька» ўзгадваў, як на адным семінары па паэзіі Жэня Янішчыц сказала, што сорак гадоў жанчыне — гэта ўсё, гэта крэс.

Можна акрэсліць яшчэ адну версію: Яўгенія Янішчыц стамілася жыць, стамілася нечага баяцца. Прынамсі, на дачасную смерць паэткі, безумоўна, паўплывалі трагічныя жыццёвыя сітуацыі, абставіны адносінаў з творчымі асобамі, што прывяло да парушэння стану здароўя: да дэпрэсіі. І звычайны чалавек, перажыўшы трагічную смерць бацькі, развод з мужам, дарожную аварыю менш чым за год (канец мая 1975 — пачатак лютага 1976-га), можа аказацца ў складанай псіхічнай сітуацыі. Але быў і 1973 год, аб якім мы мала што ведаем. Толькі досведы і ўспаміны сведкаў. У інтэрв'ю, якое надрукавана ў газеце «Чырвоная змена» за 19 лістапада 1998 года, Сяргей Панізнік сказаў: «Недзе ў канцы 1973 года, у час Жэнінага лячэння ў Прыкарпацці, з ёю была ўчынена правакацыя. Душэўны надлом не загоіш. А бязгрэшным можа быць хіба што арэшак: сам па сабе не трэскаецца». Вось з чым яшчэ прыходзілася спраўляцца Я. Янішчыц.

Падарвала яе здароўе і паездка ў Амерыку (1981). А паездка ў Фінляндыю ў 1983 годзе яе падкасіла канчаткова. Па дарозе назад паэтэса была шпіталізавана ў ленінградскую клініку. Па словах сына Андрэя, вярнуўшыся дадому, сказала: «Я ездзіла з мяснікамі».

Барыс Сачанка пра Яўгенію Янішчыц пісаў: «Нешк яна паехала ў Фінляндыю. Вярнулася адтуль сумная. <…>

— У Амерыцы мяне сёй-той выправоўваў… А цяпер у Фінляндыі… Няўжо мяне не ведаюць? — пытала яна».

У свае апошнія гады Я. Янішчыц двойчы лячылася ад дэпрэсіі ў Навінках. Каму з творчых людзей не знаёмы стан прыгнечанасці? Хто не сумняваўся ў неабходнасці сваіх высілкаў? Сёння звярнуцца да псіхатэрапеўта — звычайная справа. У савецкі ж час гэта было практычна прыгаворам. Я думаю, Жэню турбаваў не столькі сам факт лячэння, хаця і такую акалічнасць нельга ігнараваць, колькі тое, што будуць пра яе гаварыць у сувязі з лячэннем. У свядомасці Я. Янішчыц магла замацавацца думка аб змене свайго сацыяльнага статусу. У вершы «Дап'ём зялёнае віно» («Пара любові і жалю», 1983) яна пісала:

*«Не дай мне бог сойти с ума», —*
*На Пушкіна малюся».*

Творчасць Я. Янішчыц высока цанілася кіраўнікамі Саюза пісьменнікаў і Беларусі, і СССР, многімі мастакамі слова. Дарэчы, Максім Танк, сакратар Саюза пісьменнікаў СССР (1966—1986) і старшыня праўлення СП БССР (1967—1990) у дакладах часта называў імя Я. Янішчыц у пераліку з пісьменнікамі-мужчынамі, майстрамі слова. У сувязі з гэтым узнікала крыўда і зайздрасць з боку некаторых калег-жанчын, што азмрочвала жыццё і стан паэткі.

З-за Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, лаўрэатам якой Янішчыц стала ў 1986 годзе, разладзілася сяброўства з Таісай Бондар. «Жэня ўсё балюча перажывала», — сведчыла маці паэткі.

Знешне творчая кар'ера Я. Янішчыц складвалася сапраўды зайздросна. Але не ўсім вядома ўнутраная супярэчлівасць асобы паэткі. Так, пасля прапановы ўступіць у партыю яна доўга вагалася, раілася са школьнай сяброўкай Раісай Ганчарык: што рабіць?

Трагедыю Я. Янішчыц я бачу яшчэ і ў тым, што першай кнігай яна паставіла сабе вельмі высокую планку. І ёй больш не ўдалося ніводнай кнігай выклікаць такіх эмоцый у крытыкаў і пісьменнікаў, атрымаць столькі водгукаў, як пры выхадзе «Снежных грамніц». Рыхтуючы кожную новую кнігу, яна імкнулася зрабіць яе лепшай, чым папярэднія. Радасць ёй прынесла, бадай што, толькі «Каліна зімы».

Ці была магчымасць у родных і блізкіх прадухіліць трагічны палёт? Адназначна — не. Я. Янішчыц сама адлічыла сабе колькасць зямных гадоў — 40, якраз палову.

«У боскай камедыі» Дантэ ў перакладзе М. Лазінскага ёсць радкі:

*Земную жизнь пройдя до половины,*
*Я очутился в сумрачном лесу,*
*Утратив правый путь во тьме долины.*

«Утратив правый путь» — ёсць эмпірычная страта сэнсу жыцця. Хутчэй за ўсё, Я. Янішчыц не бачыла ўжо сэнсу свайго жыцця: у яе не засталося ні фізічных, ні духоўных сіл, «клубочак ніткай суравой» падступаў да горла ўсё бліжэй, а сама яна паступова знікала «з люстэркаў усіх і з усіх фотаздымкаў».

Звернемся і да імя ды прозвішча паэткі, уінкнем у яго сэнс: «Яўгенія Янішчыц — я геній, я нішчыць». Аб гэтым пісала Т. Шамякіна ў артыкуле «Мы былі аднакурсніцамі»: «Часам мне здаецца, што само яе прозвішча — праграма на самазнішчэнне: «Янішчыц — я нішчыць».

Я. Янішчыц свядома ішла «да палёту». Уладзімір Някляеў у сваіх «крынічанскіх» згадках засведчыў: «…яна знікла аднойчы з кампаніі ў нумары маскоўскага гатэля, дзе не стала некалі Купалы. Адзін з блізкіх ёй людзей занепакоіўся — і адшукаў яе на высозным балконе, амаль сілком пацягнуў назад, на што яна сказала: «Пакінь. Тут я гэтага не зраблю. Я зраблю гэта ў іншы час і ў іншым месцы».

Іван Рыбіцкі, супрацоўнік радыё, распавёў аб апошняй сустрэчы з Жэняю Раісе Ганчарык, школьнай сяброўцы: яны сустрэліся на адной вечарыне, і Жэня запрасіла ўсіх да сябе на новую кватэру; на адгаворку прысутных: «Яшчэ паспеем», Жэня сказала: «Можа, і не паспеем»…

Перад сваім «апошнім палётам» Яўгенія Янішчыц наведала ўсе выдавецтвы, была ў добрым настроі. Толькі ў роднай хаце яна дала волю сваім спрэсаваным эмоцыям і галасіла, як на пахаванні, — менавіта такой застала Жэню суседка Марыя Пятроўна.

Ад'язджаючы з Велясніцы, Яўгенія Янішчыц не запрасіла маці праехаць да яе ў горад, як рабіла звычайна. Развіталася. І папярэдзіла: «У пятніцу чакай званка».

Той пятніцай быў яе апошні дзень: 25 лістапада 1988 года…

# Мама, дай!



Станіслаў СУДНІК

Яны ішлі ўсё далей, і іх станавілася ўсё меней. Яны не ведалі, хто яны, бо не мелі назвы. Яны наогул не ўмелі гаварыць. Яны не ведалі, колькі іх, бо не ўмелі лічыць. Яны не ведалі, адкуль яны ідуць і куды, бо не маглі хоць неяк акрэсліць мясціны, па якіх рухаліся. Яны ведалі толькі, чаго яны ідуць. Яны ішлі, як і доўга перад тым, у пошуках ежы і каб схавацца ад небяспекі. Яны не разумелі, што ёсць дзень і ноч, але разумелі, што бывае то светла, то цёмна. Яны нічога не ведалі пра вясну і лета, пра восень і зіму, яны разумелі толькі, што бывае цёпла і бывае холадна. Яны не ведалі, якія расліны можна есці і якія есці нельга, яны знаходзілі салодкія расліны, ягады, плады і елі іх, яны знаходзілі горкія і кіслыя плады і іх не елі. Калі ж раптам салодкая ягада аказвалася ядавітай, то той, хто з'ядаў яе, або паміраў, або хварэў, але выжываў. Калі паміраў, то на тым усё і заканчвалася. Не пашанцавала. Калі выжываў, то прыблізна ведаў, якая расліна яму пашкодзіла, і стараўся больш яе не чапаць. Калі ядавітую расліну распазнавала маці, то яна імкнулася не даць яе дзецям, забараняла, узнікаў досвед.

Яны елі кожную жывёліну, якую маглі злавіць, і ўцякалі ад кожнай, якая магла з›есці іх. Досвед многіх паляванняў гаварыў ім, на каго варта паляваць, а на каго без сэнсу, бо выніку не будзе.

Сёння іх стала яшчэ менш. Сёння загінуў А-а. А-а быў найдужэйшы з іх. Яго ўсе баяліся і ўсе слухаліся. А-а быў адзіны, хто меў імя. Імя сваё ён атрымаў праз тое, што вельмі часта і з розных нагодаў крычаў: «А-а». Ці то гэта быў клік перамогі, ці папярэджанне пра небяспеку, ці што іншае. Калі чулася: «А-а», — усе ці азіраліся на правадыра, ці кідаліся да яго, ці, папярэджаныя пра нейкую небяспеку, уцякалі.

Неўзабаве, каб перадаць нейкі знак, які ішоў ад правадыра, то той, то сёй таксама прамаўляў: «А-а». Наогул то яны чулі гукі, адрознівалі гукі і нават маглі самі гукі падаваць. Яны лемантавалі ад болю, яны пераймалі гукі, што падаваліся звярамі ці птушкамі, маглі паказаць рык тыгра, выццё ваўка, посвіст птушак. У перадачы гэтых гукаў быў сэнс. Але кожны раз свой. Рык тыгра не заўсёды абазначаў небяспеку, а свіст птушкі не абазначаў амаль нічога.

Сёння ўсё было, як звычайна. Яны начавалі ў лесастэпе, дзе былі вялізныя дрэвы і шырокія пашы. Лесастэп быў найбольш прыдатным для жыцця.

Выйсці ў адкрыты стэп для іх было вельмі небяспечна. Яны не маглі бегаць вельмі хутка, яны не мелі моцных зубоў і кіпцюроў, не маглі ўзляцець у неба, як птушкі, ці закапацца ў норы, як дробныя звяры.

Забрацца глыбока ў глухі лес таксама не выпадала, там вельмі цяжка было знайсці ежу. А тут, на мяжы лесу і стэпу, ім, хто ўмелі лазіць па дрэвах і ўмелі бегаць па зямлі, было ямчэй. Па сваіх магчымасцях кожны з іх прайграваў навакольным жывым істотам. Ніхто з іх не мог дагнаць аленя ці антылопу. Ніхто не мог падужаць тыгра ці мядзведзя. І яны не змаглі б жыць у гэтым свеце, каб не мелі адной важнай перавагі: яны трымаліся разам вялікай групай, яны ўмелі ўзгоднела нападаць і абараняцца. У іх былі інстынкт еднасці і інстынкт адказнасці за супляменнікаў.

Ноч была халаднаватая. З першымі промнямі сонца яны пачалі вылазіць з нораў, з дуплаў, проста з разлежыстых кустоў. Ім было холадна, і ўсе хацелі есці. У іх не было поўсці, як у звяроў, ці пер'я, як у птушак. І ім было холадна. Сагрэць іх магло толькі сонца і ўласныя рухі. Рух мог іх і накарміць. На ўскрайку лесу было шмат ягадных кустоў, але ягады былі яшчэ горкія. Знайсці нешта салодкае было не проста. А побач з імі жыло шмат жывёл. Адны з іх елі траву. Другія елі першых. Тыя другія былі страшныя і для іх, але калі ўдавалася злавіць і забіць траваядную жывёліну, то можна было паесці мяса і папіць крыві. Злавіць якую-небудзь вялікую жывёліну надзеі было мала, не хапала ні спрыту, ні хуткасці, ні сілы. Але што-небудзь меншае можна было спрабаваць. Некалькі з іх хавалася ў засаду за кустамі. А астатнія пабліжаліся да статку антылоп, аддзялялі некалькі і пачыналі гнаць на засаду. Калі ўсё ішло ўдала і засаднікам удавалася схапіць адну антылопу і скруціць ёй шыю, то яе тут жа пачыналі рваць на часткі і есці. У іх не было нічога, акрамя зубоў і кіпцяў, але рукі ўжо ўмелі хапаць, браць, трымаць. Рукі ўмелі трымаць палку, камень, рог, костку, але ніхто іх з сабою не насіў: трэба — бралі, не трэба — выкідвалі. Адны з іх, адарваўшы кавалак мяса, піхалі сабе ў рот, іншыя імкнуліся даць перш дзецям. Пары рэдка трымаліся разам, сям'і як такой не было, пары ўзнікалі і распадаліся, хаця мелі месца і даўжэйшыя па часе сімпатыі і прывязанасці. Клопат пра дзяцей цалкам клаўся на маці, але калектыўны клопат пра малых існаваў. Іх заўсёды імкнуліся абараніць, схаваць, пакарміць.

Сёння ўсё было як звычайна. Яны заўважылі статак антылоп, што мірна пасвіліся недалёка ад зарасляў кустоў. А-а і некалькі мацнейшых пахаваліся ў кустах абапал вузкага праходу, астатнія адышлі далёка ў поле, каб акрыжыць антылоп і пагнаць іх у бок кустоў. Зразумела, што антылопы да кустоў ісці не хацелі, іх трэба было моцна напалохаць і адрэзаць усе іншыя кірункі ўцёкаў. Загоншчыкі, хаваючыся ў траве, ачапілі статак і, падняўшыся ва ўвесь рост, з крыкамі пабеглі на антылопаў. Тыя, пачуўшы гвалт, кінуліся ў бок супрацьлеглы і пабеглі такі да кустоў. Засаднікі са сваіх схованак кідаліся на жывёлін. Але схапіць і ўтрымаць адну асобіну ўдалося толькі А-а. Ён спачатку змог паваліць антылопу на зямлю, а пасля рэзкім рыўком скруціў ёй шыю.

— А-а, — пачулася вакол. На гэты раз танальнасць поклічу была ўрачыстая і пераможная адначасова.

Але не паспелі яшчэ ўсе сысціся да А-а, як збоку пачуўся грозны рык і паказаўся вялікі малады леў. Леў нахабна рухаўся да забітай антылопы. Усе сыпнулі ў бакі, але А-а застаўся на месцы. Ён зарычаў падобна, як і леў, і даў зразумець, што не аддасць здабычу. Ён стаяў высокі, моцны, але з пустымі рукамі. Не раз здаралася, што драпежнік у такія моманты адступаў, але сёння леў скочыў. А-а ўхіліўся, і леў амаль праляцеў міма, аднак задняй лапай усё-ткі зачапіў А-а, і той не ўстаяў, паляцеў на зямлю. І леў паспеў першым сабрацца для наступнага скачка. А-а толькі падымаўся, як на яго вухнула ўся маса драпежніка. На завяршэнне драмы глядзець не было каму, усе разбегліся...

Яны даўно ішлі разам: Ён і Яна. Яны сябравалі з маленства. Ён не пакінуў Яе. Калі Яна зацяжарыла, Ён падтрымліваў Яе. Калі Яна нарадзіла маленькае стварэнне, Ён адрозніваў гэтае стварэнне ад усіх іншых, такіх жа, разумеючы, што гэта яго дзіця. Ён стараўся падкарміць малое. Спачатку адно, а потым і другое. Такая доўгая ўзаемная прывязанасць не была характэрная, выклікала непаразуменне, асабліва з боку Таго са злымі вачыма, які імкнуўся пабыць з Ёю і ад якога ім абодвум часта даводзілася адбівацца. І, як ні дзіўна, ім гэта ўдавалася, бо іх падтрымліваў А-а. Грозным поглядам ці рыкам ён адганяў Таго ад пары, і на нейкі час усё супакойвалася.

Але сёння А-а не стала. Усё племя сабралася на невялікім узгорку. Усе выдатна ведалі, што каб выжыць, яны мусяць трымацца разам. Каб трымацца разам, патрэбна, каб было за каго трымацца, патрэны новы А-а. Пры тым усе разам яны нічога не вырашалі, вырашаў нехта адзін. Сёння гэтым адным быў Той са злымі вачыма. Той выйшаў наперад, выцяў сябе кулаком у грудзі і пракрычаў: «А-а!». Гэта мусіла абазначаць, што ён цяпер галоўны, яго павінны слухацца, ён будзе караць непаслухмяных, ён будзе весці ўсіх, куды захоча.

Для Яго і Яе гэта была рэальная небяспека. Заступіцца больш не было каму, а ў выпадку бойкі супляменнікі проста маглі дапамагчы новаму А-а і разарваць на часткі — і іх, і дзяцей.

Яна паглядзела на Яго. Ён кіўнуў галавой і пайшоў наперад. Ён выйшаў на другі край узгорка. Таксама выцяў сябе кулаком у грудзі і таксама пракрычаў: «А-а!».

Двух А-а быць не магло. Значыць, павінен быў застацца адзін. Яны пайшлі насустрач адзін аднаму. Той выглядаў вышэйшым і мацнейшым. Ішоў, расставіўшы рукі, каб ямчэй схапіць супраціўніка.

Ён ішоў роўна, але ў нейкі момант нахіліўся і ўзяў у руку ладны камень.

Ён не парушыў ніякіх правілаў, бо ніякіх правілаў не існавала. Не парушыў ніякіх законаў, бо ніякіх законаў не было. Не парушыў ніякіх нормаў маралі ці этыкі, бо не было ні нормаў, ні маралі, ні этыкі.

Былі толькі інстынкт самавыжывання, былі сіла, хуткасць, спрыт і хітрасць. Але ў дадзеным выпадку інстынкт самавыжывання ў Яго змяніўся страхам за Яе і дзяцей, таму пры Ім з усёй зброі засталіся толькі сіла, якая была яўна меншая, чым у Таго, засталіся хуткасць, спрыт і хітрасць, якая раптам на імгненне прабліснула розумам і падказала Яму ўзяць камень. Трэба было паспець выцяць першым. Той не разумеў небяспекі ад паднятай рукі з каменем. І калі Ён кінуўся проста ў расстаўленыя рукі, радасна рвануўся сашчапіць іх, але ў тым прамежку цяжкі камень апусціўся на галаву Таго. Ён уклаў у той удар усю сілу. Увесь страх за Яе. І Той упаў, так і не сашчапіўшы рук. Яшчэ адзін удар каменем давяршыў справу. Той не дыхаў. Ён пераможна паглядзеў на ворага, выйшаў на вяршыню пагорка і голасна крыкнуў:

— А-а!

І ўсе зразумелі, што Ён — больш не Ён, Ён цяпер — А-а. Гэта і яго імя, і яго пасада. Гэта і права, і абавязак.

Але на тым усё не скончылася. А-а махнуў Ёй, і Яна падышла да яго.

— Ма, — сказаў А-а, паказваючы на яе.

Што гэта мусіла значыць? Мая, яе так завуць, ці яшчэ штó. Аднак усе зразумелі, што ў іх цяпер ёсць не толькі А-а, але і Ма.

Гэта трэба было запомніць, да гэтага трэба было прывыкнуць, гэта трэба было навучыцца вымаўляць; з апошнім было лягчэй, пераймаць гукі яны ўмелі. Запомніць такое доўгае і першае ў іх жыцці слова «Ма» было цяжэй. Чаму першае, бо «А-а» — гэта фактычна яшчэ працяжны гук, а «Ма» — два гукі, «Ма» — слова.

— Ма, — яшчэ раз крыкнуў А-а.

— Ма, — паўтарыла Яна.

На гэтым першы ўрок мовы закончыўся. Сонца хілілася да зямлі, а яшчэ трэба было пахаваць Таго. Яны даўно не елі сваіх супляменнікаў, але і не кідалі іх там, дзе застане смерць. Гэта таксама быў інстынкт — не прывучаць драпежнікаў да смаку свайго мяса, каб не будзіць у тых жадання паляваць на іх. Таму яны паклалі Таго ў невялікую ямку і закідалі большымі і меншымі камянямі. Магчыма, хто-небудзь і разверне тыя камяні, магчыма, які-небудзь ліс і падкапаецца пад камяні. Але большага зрабіць для нябожчыка яны не маглі і не ўмелі.

Надыходзіла халодная і галодная ноч, бо за дзень мала што ўдалося знайсці для ежы. Ім яшчэ не было вядома, дзе той дзень і тая ноч, яны разумелі толькі святло і цяпло або цемру і холад. Але сёння ноччу засынала не бездапаможнае племя двухногіх, голых, галодных істотаў. Сёння сярод іх засыналі дзве зусім іншыя істоты, так падобныя і так адрозныя ад іх. Гэтай ноччу сярод іх засыналі два чалавекі: А-а і Ма. Чалавекі, бо мелі імёны, і калі А-а было яшчэ паўімем-паўпоклічам, то Ма — было імя ў чыстым выглядзе.

Назаўтра ўсе маглі гэта забыць, але А-а, прачнуўшыся з першымі промнямі сонца, выйшаў на пагорак і замест звыклага «А-а» ціха прамовіў:

— Ма, — і абняў яе.

— Ма! — пачулася збоку, да іх падыходзілі іхнія дзеці

— Ма!

Яна абняла дзетак, стараючыся сагрэць іх сваім целам. Грэць больш не было чым. Племя не ўмела яшчэ здзіраць скуры з жывёл, ды і жывёл тых упаляваць удавалася не так шмат. Гэтаму яны навучацца пасля. А пакуль што яны толькі станавіліся людзьмі, бо ведалі ўжо два словы.

Яны сабраліся і пайшлі далей, шукаючы то вады, то яды.

А-а і Ма паспяхова вялі племя. А-а паказаў усім, што, ідучы на паляванне, трэба браць у рукі па добрым камені, і тады іхнія сілы значна павялічваюцца. Паляванні сталі больш удалыя, але асноўнай здабычай былі птушыныя яйкі, салодкія карэнні, ягады, плады.

Аднойчы Ма падышла да дрэва з пладамі, якія мелі вялікую костачку ўнутры. Дрэва не мела ніякай назвы, не мелі назвы і плады. Усё, што цікавіла Ма, ці можна ўжо плады есці, бо калі можна, то зверху з'ядаецца мякаць, а з костачкі можна дастаць зярнятка, раскусіць ці разбіць каменем, і таксама можна есці. Ма сарвала плод, паспытала, мякаць была салодкая. Яна не ведала, спелы ці зялёны плод. Ён быў салодкі. Прырода сама паклапацілася, каб спелыя плады былі салодкімі, а няспелыя — кіслымі або горкімі.

Убачыўшы, што Ма есць плод, да яе падбегла дзіця, выцягнула руку:

— Ма!

— Ма!

Ма не звяртала на яго ўвагі.

— Ма, Ма!

— Мама, дай!

Просьбы малога не надта кранала Ма, але яна пачула і зразумела, што дзіця просіць плод і што гэтым словам можна прасіць.

Ма крыкнула:

— А-а!

А-а пачуў і зразумеў, што Ма кліча яго, падышоў. Ма паказала яму на плод, які вісеў высока для яе. А-а падскочыў і сарваў плод. Ма выцягнула руку і сказала:

— Дай!

І А-а зразумеў, што яна просіць плод, што так можна прасіць. А знізу зноў зарумзала малое:

— Мама, дай!

Гэта быў першы асэнсаваны сказ з двух слоў, але што гэта быў за сказ! Яны трое — А-а, Ма і дзіцяня — гэтым сказам пачалі гаварыць.

Неўзабаве слова «дай» будзе ведаць усё племя. Потым з'явяцца словы «сюды», «туды», «ідзі». З'явяцца назвы жывёл. Яны будуць вельмі кароткія, з аднаго склада: «бык», «леў», «тыгр», «слон», «конь», «ліс», «воўк», «бэр». З'явяцца назвы дрэў таксама кароткія: «дуб», «бук», «кедр», «вяз», «клён», «граб».

Племя А-а і Ма загаворыць, пройдзе пэўны час, пакуль дойдзе да сапраўднай мовы. Слоў будзе мала, звязкі іх будуць не заўсёды лагічныя, але калі іхняе племя сустрэнецца з чужым, нямым племем, то ў іх будзе відавочная перавага.

Што сталася з нямым племем, не вядома, а гаваркое племя жыло, множылася, падзялілася на два, потым на чатыры. Часткі пайшлі ў розныя бакі.

Яны даведаліся, што такое дзень, што такое год. Прайшлі тых гадоў многія тысячы, а першыя словы «Мама, дай!» гучаць па ўсёй планеце дагэтуль. Гучаць ужо непадобна, малазразумела, але захоўваюць свой спрадвечны сэнс:

— Мама, дай!

Магчыма, гучыць гэта без налёту высокай духоўнасці, магчыма, па-спажывецку, але так пачыналася чалавецтва?

— Мама, дай!

# Перапляценні



Ірына БАГДАНОВІЧ



Фота anews.com

### Прастуда

*Кашляла зорка ў нябёсах,*
*Зорка прастыла ў самоце*
*Ў сінім касмічным сумёце,*
*Кашаль адрэхваўся ў лёсах...*

*Бога маўклівай гасподы*
*Зорка была ахмістрыняй.*
*Мела ключы ад пагоды,*
*Снежнай загадвала скрыняй.*

*Толькі праз кашаль не дбала*
*Гэтую скрыню заперці —*
*Так і зіма не спяшала*
*Ў сонечных промнях памерці...*

### Маўчанне

*Каля карціны Валерыя Шкарубы*
*«Пачатак дня».*

*Фігуры на белым снезе,*
*ніз дрэў*
*утоплены ў святасць...*
*У гэтай белай імпрэзе —*
*Маўчання*
*напятасць...*

### Кра́ты сінтаксісу
***(Апраўданне футурызму)***

*Шліфуе думку дасканала*
*І тэкст парадкуе нямала,*
*Пералічае і тлумачыць,*
*Калі патрэбна, паўзу значыць,*

*Падскочыць кверху ў захапленні,*
*Нямее ў шчырым задзіўленні,*
*Кручком сагнуўшыся, паклон дасць*
*І запрашае — у бясконцасць...*

*Паэту ж сінтаксіс — як кра́ты!*
*Ён слоў паток шануе чысты.*
*Прад коскакроп'ем вінаваты*
*Да скону свету футурысты:*

*Яны змаглі няволю коскі,*
*Радкоў прывычныя палоскі*
*Зрабілі лесвіцай шурпатай,*
*Разбілі сінтаксісу краты,*

*Дзівілі свет дзівацтвам рухаў,*
*Гульнёю слоў і рэхам гукаў,*
*Лічылі рыфму ў вершы стратнай,*
*А волю творцы — ўсёпачатнай!...*

### Штодня...

*Штодня*
*рушыш*
*у свой шлях*
*дасканаласці...*
*Хочаш быць*
*добрым і справядлівым,*
*міласэрным*
*і споўненым любові...*
*Трэба змірыцца з тым,*
*што заўсёды знойдзецца*
*повад*
*для пакаяння...*

### Ведзьмакі

*Паводле мясцовай хронікі даўняга часу.*

*Ратуша...*
*Рання зляканне.*
*Пляц ад натоўпу вірыць.*
*Сёння, як кажа паданне,*
*Будуць вядзьмарку паліць.*

*Чорныя косы, як змеі,*
*Зблытала ночы рука.*
*Цешаць нутро ліхадзеі,*
*Плача душа ведзьмака.*

*Ён ёй нашэптваў у гаі*
*Словы замовы дзядоў*
*Разам з прызнаннем «кахаю»,*
*Сплеценым з траў-чаратоў.*

*Скачуць агністыя пеўні —*
*Вырак ім той вырабляць!*
*Лівень ліну неспадзеўна*
*З воч ведзьмаковых на пляц...*

*Неба ж ніводная хмарка*
*Ў гэты не засціла міг.*
*Ахнула чэлядзь: вядзьмарка*
*Цэлая, кат яе — знік...*

*Доўга пра цуда казалі,*
*Памяць аб ім бераглі.*
*Больш ведзьмакоў не чапалі*
*На беларускай зямлі.*

### Перапляценні

*Паэтаў сум, згрызоты і пакуты*
*Прымае бездакорліва папера...*
*Жыццё камусьці — кубачак атруты,*
*Камусьці шлях — любоў, надзея, вера.*

*У тых шляхоў адрозныя прасторы:*
*Нябёсаў сінь і бездараж глухая...*
*Дый кожны лёс сказаны на паўторы:*
*Адно з адным віе-пераплятае...*

### Раптоўнае

*На палатне твайго лёсу*
*што вышывае Бог*
*ніткамі срэбных маланак?*

*Хто прачытае пісьмо*
*зрокам,*
*што стыне ад ветру?*

*Сліва апошні свой ліст*
*скіне,*
*каб вытрываць сцюжу.*

*Думак нястройных рады*
*хутаеш*
*рыфм адамашкам...*

### Ліхтарык

*З кожным*
*заветраным ранкам*
*стыне*
*душа Лістападу...*
*Свечкі задушныя*
*гаснуць...*
*Толькі ліловы ліхтарык*
*Позняй*
*скукарчанай слівы*
*грэе яшчэ...*

### Дарожніца

*Любоў шукала прыгажосць,*
*Хоць ведала, што зман...*
*І той вандроўны ягамосць*
*Начэй маіх не пан.*

*І я не пані вечароў,*
*Дзе пышнай жарсці млосць,*
*Хоць я не ля святых дароў*
*Шукала прыгажосць.*

*Але малітва й знак крыжа*
*Мяне ў жыцці вялі,*
*Калі пужаў начы кажан,*
*Калі грахі зямлі*

*Мяне ланцужылі ў палон —*
*Салодкае ярмо...*
*Зямны, грахоўны плоці сон*
*І ява з ім адно.*

*Іду, дарожніца ў імгле,*
*Ружанец, як ліхтар.*
*Той сон мой — тло, і я на тле,*
*І госць мой быў махляр.*

*Не знаю, што, каго знайду,*
*І дзе канцовы шлях...*
*Абапіраецца*
*на дзён слату*
*Капліцы неба дах.*

### Абед

*Каля кафэшкі*
*на Прадмесці*
*Сядзіць гуллівы верабейка.*
*Нагода добрая пад'есці:*
*Афіцыянтка-чарадзейка*
*Яму штосьць кінула са жмені...*
*Далоў галодныя цярпенні!*
*Дзяўбе ён жвава й самавіта,*
*А тут іду наўпрост праз стол*
*Ягоны...*
*Ён сярдзіта*
*Падскочыў з долу ды на дол...*
*І важнай пані збочыць трэба,*
*Бо што ёсць найважней абеда!?*
*І вераб'іная кавярня*
*Зноўку дзяўбе*
*Удзячна й жарна!*

### У Завоссі

*Над родным краем —*
*шэлест ветра,*
*Трымціць лістота і, здаецца,*
*Чуваць, як б'ецца ў яе нетрах*
*Адама рыцарскае сэрца.*

*Пульсуе дух яго натхнення*
*Па-над усім тут: полем, гаем,*
*Па-над фальваркам — як карэннем,*
*Якім ў айчыну мы ўрастаем.*

*Яго любоў нас паяднала*
*І цэлебруецца, як меса.*
*Любоў! Для прыйсця яе стала*
*Завоссе брамаю нябеснай.*

### Беларуская хатка

*Філіялу музея Максіма Багдановіча*
*і яго загадчыцам Тацяне і Кацярыне.*

***

*Тут утульна так і гасподна,*
*Да анёльскай сядзібы падобна,*
*Тут заўсёды — святая гасціна*
*Ля газніцы Максіма...*

***

*І шчодраца ў «хатцы»*
*Пачуцці і думкі,*
*Батлеечных лялек*
*Гучаць пацалункі,*
*І рыпне масначка*
*У сцішанні тым:*
*Анёлак пратупаў?*
*Ці, можа, Максім?*
*Хто гэта пабачыць,*
*Хто гэта пачуе,*
*Таго назаўжды*
*Беларусь зачаруе.*

### «Жывом» і «будам»!

*У галаве*
*апошнясць думкі,*
*а ў кашальку*
*астатні грош,*
*жыццё згарнула пачастункі,*
*а ты чакаеш*
*і жывош!*

*І Богу дзячыш*
*за імгненні*
*спазнаць трыумф,*
*спазнаць адчай,*
*кіруюць сэрцам летуценні*
*і шэпчуць небу*
*«выбачай»...*

*І выпраменьвае*
*не скаргу,*
*не закарэлую тугу*
*душа*
*на лёсу гаспадарку,*
*а толькі*
*буду і магу!*

### Вераснёвае

*Харашыня такая навако́л,*
*Што пышаецца сэрца ўзлёту хваляй,*
*І танчаць вераснёвы рок-н-рол*
*Кляны й каштаны між аўтамабіляў.*

*І ты таксама ўкружышся ў той рух,*
*Нібы дзяўчо з далёкіх успамінаў,*
*Калі красе пярэчыў капялюх*
*І не балела сэрца ад правінаў.*

### Той самы госць

*З-за адсунутае фіранкі*
*зірнуў сумны,*
*запознены*
*лістападаўскі дзень,*
*быццам здарожаны путнік,*
*што хоча зайсці*
*на гарбату*
*пагрэцца,*
*ды не ведае,*
*ці ўпусцяць яго...*
*Адчыню сваё сэрца*
*на цэлую восень,*
*прыгатую стол...*
*А можа, гэта*
*той самы госць*
*па дарозе да Эмаус?...*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (207), лістапад 2023 года

# З інтымнага жыцця старэчы



Людміла АНДЗІЛЕЎКА



Фота mirpozitiva.org

Тэлефонны званок разбудзіў рана, ноч зноў выдалася бяссоннай, сабраўся даспаць, крыху палепшыць самаадчуванне, толькі задрамаў — так лёгка, лагодна, у нейкім маладым флёры, і — на табе, як у сэрца нажом, бы кіпнем абдало, нават ціск, адчуваецца, падскочыў. Званок, рэзкі — гук забыўся адключыць з вечара: на летніку столькі занятку — ламаюцца гарадскія побытавыя звычкі, парушаецца рэжым. Зірнуў у экранчык. Жанчына!

Лежачы размаўляць нязручна, задушліва, трэба было б падняцца з ложка. Пачаў хапацца рукамі за тумбачку, уставаць — ды нялоўка, выкруціў руку (пасля пераломаў абедзве трымаюцца на тытанавых прэнтах), слізгануў босай нагой па падлозе, шмаргануў мезенцам аб рог металічнага брыжа да крыві, востра забалела. Тумбачка праехала ўздоўж падаконніка, з яе пасыпалася дробязь, якую даводзіцца выкладаць кожным «вечаровым цыклам» на ўсялякі выпадак: сардэчнае, акуляры, пігулка ад высокага ціску, вада ў кубачку пад накрыўкай, насоўка, слоўнікі: нямецкі, старагрэцкі, ідыш, іўрыт, тое-сёе з папер, аловак — зафіксаваць думкі, намёткі будучага артыкула, які раптам, дасць бог, прыйдзе ў галаву. Каб не ўставаць лішні раз, не напружваць балючыя суставы, мусіш сістэмна размяркоўваць, старанна абіходжваць усе свае «рэдуты, плацдармы і стаўкі». Апошнія гады пачала круціцца галава, нарушыўся вестыбулярны апарат: пакуль звыкнешся з палажэннем непаслухмянага «цялеснага корпуса ў прасторы», ды пакуль давядзеш рух-хаду да рытмічнай аўтаматыкі — бяда!

Не раз і галавой здаралася кульнуцца ў сваімі ж рукамі пульхна ўскапаную глебу добрасумленна аздобленай грады. На чатырох падпаўзаць, хапацца за штось даючае супраціў, аб што можна аперціся, ускараскацца... Вялікая сіла — апора! Фізічная, духоўная, маральная... Памятка: «Апорай здольна быць толькі тое, што супраціўляецца». Пад крокі ўрачыстыя дзявятага дзясятка жыцця нехаця становішся філосафам.

Гарод? Навошта ён, грады... Каб самаму сабе даказаць: маеш сілы! Каб не залежацца, не заснуць на хаду.

Жанчына! А ўстаўныя сківіцы кудысьці прапалі. Добра памятаў, выняў іх з рота і паклаў у чысты раствор з адмысловай пігулкай для ачышчэння. (Дзялі яе напалову: выдатна спраўляецца з задачай, навошта дарэмныя траты.) Вось прывычнае месца для слоічка — аказалася занятым: учора шмат чаго давялося перарабіць па гаспадарцы на летніку: выдзер з ляхі агурэчнік, засеяў рэдзьку масляністую (абагачае грунт), сабраў гарбузы з усяго поля: абяцалі замаразкі, шкада трудоў — мусіў зарана адсячы іх ад жывога, яшчэ зялёнага былля. Яно шнурамі распаўзлося, прарасло аўтаномным карэннем пад кожным лістом па ўсім гародзе.

О, думка! Трэба артыкул пісаць асацыятыўны: гарбузы на полі як сімвал грамадскага ўкладу. Не! Лепш так: гарбузы як алегорыя аднаго з галоўных складнікаў грамадзянскай супольнасці. Аловак — замацаваць... Гэта ж да якой ступені прырода сябе абараняе і забяспечвае, прадугледжвае выбрыкі надвор'я. Расло б гарбузінне, сілкуючыся толькі адным цэнтральным коранем, што вырасце падчас анамальнай засухі? А калі ўскласці адказнасць на ўсю сістэму, пры кожным атожылку — сваё карэнне, ніякімі катаклізмамі гэтакую сістэму не знішчыш.

Гарбузы і занялі палову пакойчыка, арганізавалася часовае бязладдзе: што стаяла, ляжала, вісела на звычных месцах, давалася ў рукі аўтаматычна, як па-навукоаму, — дзякуючы дынамічнаму стэрэатыпу, раптам згубілася. Дык дзе ж сківіцы?!

Жанчына! Тут не адкажаш бяззубым шамканнем спрасоння. Перазваніць? Наўздагон потым выбачацца: спаў, не пачуў — зусім не той імпэт! Выйдзе — бытта глухі. Гэта ўжо не той козыр, непрэзентабельна, якіясь недагаворачкі, эківокі. Куды паставіў ёмістасць?! На стале, на паліцы — няма, не ў тумбачку ж! Хоць апошні час па слабасці ўвагі, засяроджанасці і не такое мог зрабіць. На днях паклаў туалетную паперу ў халадзільнік, ключы ад кватэры гадзіну шукаў, а яны навідавоку ляжалі, ля краніка ў мыльніцы.

Жанчына! Яна звычайна тэлефануе па невялікіх справах: мода такая завялася — кожны ранак перакідвацца жартамі, новы дзень адзначаць прыветам, пасмяяцца, падзыгнуць адно аднаго «бадзёрым станам маладых арганізмаў». Пераказаць, што вычытаў, што напісаў, да чаго дадумаўся. І не нагаварыцца! І ўжо хочацца радасна ўставаць, пачынаць новы дзень. Жыццё далей вядзе свой рэй. Прыступаеш з аптымізмам да «ранішняга цыклу»: саскрэбціся з ложка, намацаць шлэпкі, усцягнуць на непаслухмяныя пальцы ног кампрэсійныя панчохі, ускінуць на плечы «стаясёрачку», схадзіць агледзець грады, вымыць твар, уставіць зубы, кроплі ў вочы, кроплі ў нос... спіс лекаў па крузе, па парадку: «ад сэрца, ад ціску, ад тромбаў, ад галавы». Потым настае час кавы, міжнародных навін: Украіна, Беларусь, Нямеччына... Нямеччына — абавязкова, настальгічны напамін пасольскай службы. Даніна і ўдзячнасць насычаным удалымі намаганнямі гадам яшчэ маладой сталасці... Украіна апошнім часам устойліва заняла першае месца ў цікаўнасці да навін, пачынаючы з гарачага, шалёнага лютага, калі перакуліліся астатнія надзеі і спадзяванні на здаровы, разумны ход падзей. Расчалавечванне грамадства перайшло ў фінальную стадыю. Перакусіць, каб сілы не пакінулі? Facebook — своеасаблівы дэсерт, ілюзорная вітрына сяброўства, віртуальнага флірту, віртуальнай пашаны, самазначнасці.

Жанчына! Не будзь яе ў жыцці... Яны, бывае, між сабой сур'ёзна сварацца, з крыўдай, папрокамі, абра́замі. Можа, нават дзень-два пад злосць пройдуць паасобку. Ці злосць у чым памагатая? У разбурэнні. Абмежаванні старасці выкрываюць рэзервовыя магчымасці чалавечай фізіялогіі, форс-мажорныя абставіны штурхаюць на выкарыстанне прыхаваных актываў. Усё like! Усё ok! Загартоўваецца цярплівасць, выхоўваецца гуманнасць, прывіваецца абярэжнасць да блізкіх. У інтымных стасунках увядаючых асобін нечакана адкрываецца нязведаны пласт метафізічнай прасторы, закаханасць душ раптам вынаходзіць і штосьці для задранцвелых целаў: эксклюзіўныя заначкі, крэатыўныя знаходкі, вытанчаныя абертоны зыкаў і адценні колераў. Прыглядзіся толькі, як загадкава калыша фіранку, якую яна пачапіла, ранішні халадок, як дзіўна адсвечвае сонца: незамыславаты малюнак ператвараецца ў таемнае мілаванне інь і янь. А той заплечнік, у якім яна прышыла адмысловы кішэнь, нават палягчэў, магчыма, груз пачаў размяркоўвацца больш рацыянальна. А як утульна ў спартовым касцюме, што перакроіла!

Жанчына! Падскокваеш сярод ночы: дзе яна? Шаленства рэўнасці! Сон сніў мярзотны! Пайду заб'ю!

— Што за мужчыны ля цябе круцяцца?!

— Божа мой, які адзюльтэр?! Не блытай сон з явай. Ты паглядзі на мяне! Каму я патрэбна?!

Рэўнасць, гнюснае пачуцце ўласнасці...

— Здраднік подлы! Што за «падмётнае» ліставанне?! Прыстроіўся пад чужымі постамі ў фэйсбуку хвастом перад жанчынамі віляць! Як гэта разумець? «Ich war glücklich, Elen, Sie am Silvesterabend kennenzulernen». Цяпер мне ўсё раз'яснілася, усё тваё крывадушша!

— Што ты кажаш? Ты паглядзі, які я ёсць! Старая павесма, я ўжо гляджу на паповы сані... Было ў вашых мясцінах такое выслоўе?

— Не загаворвай мне зубкі! Здраднік! Двайное жыццё вядзеш. Забіла б! Ніколі не дарую! Мірыліся зноў і зноў. Адходзіць сэрца, наплывае сум, смутак, адчай, як без чалавека: роднага, блізкага душой, думкамі, словамі, розумам, вачыма, целам, жартамі, навінамі, ведамі, дзіравымі шкарпэткамі, залапленымі як папала тут жа, побач седзячы плячо ў плячо перад экранам старога, пузатага тэлевізара, завезенага на летнік толькі ад шкадавання выкінуць на сметніцу. Шкарпэтак новых сотні пар: фірмовых, экалагічных, модных, з этыкеткамі, куплены пад усе адмыслова пашытыя пасольскім краўцом гарнітуры: чорныя, шэрыя і лёгкія летнія, той, у якім трымалі ў парламенце галадоўку. Амаль ні разу не апранутыя пары, тройкі — шафа ломіцца ад гэтай акадэмічнай калекцыі, якую ўжо нікуды не апранеш, калі толькі на пахаванне былых сваіх паплечнікаў. Шкарпэткі цёплыя, шкарпэткі баваўняныя, шкарпэткі ядвабныя і віскозныя ва ўпакоўках і ў спадчыну прэзентаваныя ўнукамі, ляжаць у «калітачкі» складзеныя: «Я іх не буру!» Але толькі гэтыя, залапленыя абы-як, халера ведае навошта, абы рукі чымсьці заняць, каб не ляжаць без толку, не толькі ступакі грэюць, балючыя, выкручаныя косткі, грэюць сэрца.

На экране — нічога людскага, ніводнай душэўнай, разумнай думкі з экрана не пачуць, але як разам, усё — рай: цікава, смешна, весела, нібы існуе ў свеце справядлівасць, нібы ёсць дзесьці свабода, і канечне ж, перамагае розум, бярэ верх дабро...

Вайна!!! Вайна абавязкова скончыцца... Людзі за кратамі!!! Ну ёсць жа ў свеце праўда, і яна калісьці адкрыецца ўсім і паўстане.

(Ды вось жа яны, зубы.)

— Алё, гэта ты?

***

Пасварыліся, надзьмуліся, абразілі адзін аднаго, паслалі далёка-далёка, пакідалі тэлефоны, заблакаваўшы следам усе подступы: мабільны, тэлеграм, прыват, вайбер... Як заўсёды — на заўсёды, каб больш не ведаць, не бачыць, не чуць! Гарадскі працаваў, пошта электронная, якую не ўмелі і не ведалі, як адключыць, — на ўсякі выпадак засталася ў функцыянале, на сувязі, а што, як раптам луне каторы, склеіць ласты, як кажа моладзь — капыты адкіне, а тут і знаць не дазнаешся. Пясок ужо даўна сыпецца па ўзросце: на зыходзе веку ў пачуцці кінуліся...

Два «апошнія» візіты нанесены. Адзін раз хадзіў мірыцца, не папярэдзіўшы, дома не аказалася, паехала да ўнукаў. Пачапіў палку кілбасы на ручку дзвярэй уваходных: хрушчоўка, лесвічная пляцоўка толькі размінуцца, хапане каторы, ідучы на свой паверх — кілбасы не шкада, там яшчэ пара лімонін, пісьмо яшчэ з вершам лірычным, таго шкада — і знаць не будзе, што прыходзіў, паэтычныя радкі а пятай ранку пісаўшы з прысвячэннем. Асобны вершаваны раздзел у кнізе скласці можна, каб цаніла. Цяпер сядзі, перажывай: знойдзе, не знойдзе.

Падыход праз яе любімых Вівальдзі, Джадзота тут, пад замкнёнымі дзвярыма, на чужой тэрыторыі не наладзіш: Віладжыо Барысаўскага мяснога камбіната надзейней, мяркую. Няхай церпіць танталавы мукі, вагаючыся між высокім і смачным, між асалодай паднябеснай і ўсалодай паднябення. Не разгубіцца — аб'яднае! Будзе параўноўваць варыянты выканання рознымі аркестрамі пад кіраўніцтвам розных дырыжораў першай сімфоніі Чайкоўскага і адначасова «тачыць» сыравяленую... Не ад злосці я тут бурчу і скарджуся, ад нязгоды жаночым выбрыкам патураць, але што б я рабіў без яе? Роўнасць характараў, аднолькавыя каштоўнасці, блізкія меркаванні і думкі, эмацыйная сістэма, а самае дарагое — мова дзяцінства адна.

Заканчэнне на стар. 7 »

# З інтымнага жыцця старэчы

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6



Фота yaustal.com

Раптам выплыве з памяці слоўца — ай! Дыямент! І ніхто, акрамя цябе, ужо не ведае яго самага глыбіннага, шырокага, разнастайнага значэння, а яна ў тэме — дадае яшчэ адзін непрывычны адценак асэнсаванаму раней з практычнага ўжывання. Падхопіць прыпеўку заваротам нечаканым, дапіша словы старадаўняй песні: а што я — не народ? Маю права!

Штосьці адчула, відаць, якраз у момант, як кілбасу чапляў, занепакоілася, завярнула назад таксіста з паўдарогі, ехаўшы да ўнукаў — знайшла кілбасу, верш, адгукнулася. Была падключылася, патэлефанавала, але ж во і зноў усе напрамкі сувязі мёртвыя. О, нораў! Што б ужо было, каб маладыя сустрэліся, сышліся, счупіліся. Нешта было б…

Другім разам пайшоў па тапкі і яшчэ такія-сякія патрэбныя рэчы забраць: толькі прычына. Насамрэч спадзяваўся: адумаецца, адпусціцца. У прыхожай на адыход не ўтрымаўся, слёзы пасыпаліся. Вынесла запакаваную паклажу — зверына-зверынай, усміхаецца, кракадзілавымі слёзкамі назвала мой катарсіс. Гонар цісне, з другога боку, — кідацца ў ногі з выбачэннямі ці што?!

Ну фліртануў на фэйсбуку, пакінуў у бадзёрым самаадчуванні пад лірычны настрой пару каментароў пад постамі сябровак, не без намёкаў… маўляў, мне «хацелася б прыгрэцца за пазухай», дзесьці рыфму падпісаў на забаву: «Ты, сяброўчка Галіна, ох і вёрткая дзяўчына!». Усё гэта жартам, з лінгвістычнымі нюансамі, не абы языком менцяшыць: хочацца чым небудзь развесяліць у час гэты змрочны дзяўчат. Палітычнае — не крані, за падабайку ў выглядзе пальца паднятага арыштуюць, за не той канал пасадзіць могуць, беларускай песні не пачуеш, колеру адпаведнага не ўспамінай… Ад катоў і сабачак на ленце блажыць. Я жывёл люблю, але ж не дваццаць чатыры гадзіны на сем!..

Раней, па першасці, як толькі пазнаёміліся (фэйсбук, канешне ж, паспрыяў), і тады ўжо ўспыхвала: узаўецца, нібы пчаліна ў сраку джыгнула, — абзаве па ўсякаму: і лавелас, і бабнік, і здраднік… Схопіць сваю вопратку — і паляцела з хаты! Спачатку злосць брала: знайшлася маладзіца, іці тваю! Мне палова дзявятага! Але ж і табе ўжо палова сёмага — не пятнастоўка! Розум і характар не пашкодзіла б скарэктаваць адносна біярытмаў. Магла б улічыць абставіны. Схлыне злосць, неяк тужліва, сумна зробіцца — адзінота. У змрочным настроі думны працэс не надта віруе, а без інтэлектуальнай дзейнасці — нікт! Патрэба, звычка, можна сказаць — пакліканне, mein Beruf! У душы я настаўнік з вялікай літары. Распірае жаданне індуцыраваць веды, дзяліцца вычытаным у тэкстах недаступных шырокаму чытачу, раскапаным у замежных часопісах, а зрэдку і выкрысталізаваным праз слоўнікі.

Тады, як з тапкамі сыходзіў, вытыркнула галаву з дзвярэй — чакай, падвяду да маста, яшчэ рынешся дзе стоць галавой. Па дарозе памірыліся, забіраў свае торбы дарэмна, выходзіць. Хаця, з-за гэтых жа, нібыта, торбаў і выйшла прымірэнне. Ці надоўга? Але як радасна, шчасліва, кранальна, як светла на душы. З чыстым сумленнем імкнешся сесці за стол з роздумам аб глыбокіх каранях паходжання слова, як некалі жартаваў мой сябра — «абіззяна абрасла перрам і піша стаццю». Самотны лагакрат, мне словы — музыка. Я сны сню пра словы…

Развіталіся, забегся па дарозе ў маркет… Каб ты калом! У маркеце і кінуў тую зламысную торбу на касе. Пакупкі ў руках трымаў, гаманец, пенсійнае, картку… кіёчак яшчэ такі модны, фірменны быў пры мне, потым і яго дзесьці пасеяў… разлічваўся. Дык тую сакрэтную торбу, што ад яе забіраў, на касе і забыўся. Дамоў прыходжу — аж запякло! Там жа неабходны «элемент». Не ў тым бяда, што немалыя грошы каштуе — яго ж не так то і проста падабраць па канструкцыі, гусце ды іншых разнастайных параметрах… Вярнуся! Пайшоў!

— Я тут у вас на касе пакет забыў.

— Мы ўсё здаём у цэнтр аховы.

— Заходжу ў цэнтр, там дзяўчаты маладыя сядзяць, хлопцы круцяцца ля іх… Спачатку сціхлі, пачалі вывучаць мяне з цікаўнасцю, гляджу — заварушыліся, павесялелі.

— А што ж у вас ляжыць у гэтым пакеце? Вы павінны ўсё пералічыць… — а самі пырскаюць, аж душацца, відаць, са смеху, пераглядаюцца, за экранамі манітораў схаваўшыся…

— У пакеце (кажу, таксама смяюся) джэнтэльменскі набор прадаўгаватай формы!

Зарагаталі…

— О, малады чалавек, дазвольце з вамі пазнаёміцца.

— Вучыцеся! — жартам упікаюць дзяўчаты сваіх хлопцаў.

Пасля доўгачаканага прымірэння назаўтра ж і дамовіліся на шпацыр. Яна там сукенак панакупляла, няцерпіцца выгуляць новыя строі. А сама два крокі не можа ў мадэльным абутку зрабіць, войкае — ногі баляць.

Між пунктам А і пунктам Б паўгадзіны павольнага старэчага ходу. Ну і вырашылі час эканоміць: выйдзем насустрач адзін аднаму, кожны са свайго адрасу — дарога ж адна… Дарога то адна, ды ў падземным пераходзе метро «Маладзёжнае» пасярод фае калона шырокая пастаўлена…

Датыргіцкаў аж да яе дома — так і не сустрэліся: стаю пад балконам, гляджу ў акно, думаю, пачакаю, зараз выйдзе, і так спазняецца, колькі ж прыбірацца можна? Стаю, стаю — змерзнуць нядоўга! Кавід па ранейшаму свірэпствуе… Зірнуў у экранчык тэлефона, а там пад сорак прапушчаных выклікаў, гэта яна прарывалася. Во няўдача! Напэўна, не пачуў праз ваўняную шапку, глухая цяцера! Набіраю нумар. Каб жа зноў не ўспыхнула.

— Дзе ты падзеўся? Я акалела пад тваім пад'ездам!

— Я ж цябе чакаю ў тваім двары. А як мы размінуліся? Адна дарога…

— Я так і знала, што тая калона некалі з нас пажартуе! — смяецца ў трубку.

Адна аднюсенькая калона пад зямлёй у пераходзе — і трэба ж было роўна ў той момант дайсці да яе і размінуцца паўз розныя бакі…

Прагулачка…

## Лацно

Старой ужо пераваліла за восьмы дзясятак, але была круценькая, жывая, лёгкая на нагу. Целам гладкая — не сорамна ў лазні распрануцца, скура ані не вісіць вакол костак павесма, мерная, не прывыкшы да лішняй вагі, бо ўсё жыццё ў працы, у руху. Хварэць не ўмела, у бальніцы нарадзіла толькі меншае дзіця з чатырох, ранейшыя дома «знайшліся». З гародамі адна спраўлялася мімаходзь. Прыбяжыць на абед — коп, коп, і стаяць грады як лялькі — ні былінкі пустазелля. Па радні вясковай і ў гэтую восень лётала на падмогу выбіраць бульбу. А хто і «насыпіць» з паўмяха завадной на спробу, сапраўднай, свойскай — яна давольная. Пад добры настрой, паддаўшыся вясёламу лямanту, магла пажартаваць пад перакус пасля акопак — аж дзве пенсіі маю!

Канечне ж, ніякіх дзвюх пенсій у яе не было, але на год два разы ад дзвюх арганізацый запрашалі яе на прафесійныя святы: ад ЖКГ, дзе адпрацавала ўсё жыццё прыбіральшчыцай пры гасцініцы, потым мусіла звольніцца, каб да садка панянчыць унука, — хадзіла глядзець канцэрт, слухала, як з трыбуны сярод пералічаных ветэранаў працы гучала і яе прозвішча, выклікалі распісацца за падарунак — звычайна, камплект пасцельнай бялізны ці рушнічок у бяднейшы год. Складала неўжыванымі ў шафу, бо шкадавала, прывыкшы эканоміць на ўсім, але радасна было зірнуць іншым разам на роўныя «калітачкі» прыгожых гарнітураў, запакаваных у бліскучы паліэтылен, адчуць сябе «багатыркай» — прыгадзіцца дзецям… МКК, малочна-кансервавы камбінат, куды пазней пашанцавала ўладкавацца, дадаць да пенсіі яшчэ колькі гадоў і прыварак у грашовым эквіваленце, прадпрыемства багатае, у той час саюзнага маштабу, адтуль і пайшла ўжо на адпачынак па старасці веку канчаткова.

Пенсіянерам у абедзвюх арганізацыях значылася па праву, але, чамусьці, крыху саромілася такой удачы, нібы абабрала каго, падманула, схітрыла, цяпер карыстаецца ўсімі льготамі незаконна. Льгот было, акрамя пасцельных камплектаў ЖКГ на свята, — гадавы набор прадуктаў ад малочна-кансервавага завода, а гэты дадатак ужо лічыўся нежартоўным, бо распрадаваць «саюзны» камбінат сваю прадукцыю ў раёне не меў права, вось народ і мусіў вырашаць праблему сваім розумам: выносілі пад палой, у папрышываных знутры да падбіўкі кішэнях, у штанах і станіках.

Пенсіянерам раз на год выдзялялі набор: дзесяць банак салодкай згушчонкі, дваццаць кансаровак канцэнтраванага малака, з пяток — загушчаных вяршкоў, добры брус масла, колькі кіль цукру — памнажай усё на два — дзед ішоў з таго ж завода на пенсію!..

Дзеда пахавалі два тыдні ўжо як… А тут паштарка і нясе пенсіянерам ліст — запрашэнне ад прадпрыемства.

«Невядома: будуць даваць толькі на адну, можа, яшчэ не паспелі выкрэсліць са спісу бацьку? Пэўна, сабшчылі! Людзі ўрэдныя, зайздросныя: — Ого, *лацно*! — думаюць…»

Атаварыўшыся, яна садзілася сартаваць гасцінцы: шэсць унукаў, праўнукі — па адной баначцы не дасі. Калі ж выкрэслілі дзеда са спісу — што тут дужа раздаваць? Няма крэпка чаго раздаваць… Ці дазналіся пра дзеда? Дазналіся, канечне, амаль увесь завод на пахаванні быў. А можа, дадуць на дваіх?

Старая наняла суседа з машынай — во, яшчэ і за падвозку прыйдзецца аддзячыць, баначкай не адбудзешся… Выправілася ў фірменную краму. Ля самых варот прадпрыемства ўважліва прыслухалася — не, «жывадзёрня» маўчыць. Так сама сабе звала пілу, якой на задворках тэхнічных прыбудоў распілоўвалі раздзьмутыя бляшаныя кансароўкі з выбракаванай закупнікамі згушчонкай; яе на завод вярталі вагонамі, і тады па асфальтаваным двары запаволена плылі цягучыя рэкі густой салодкай жыжы. Глядзець на той жудасны блот пад візгат пілы балела нутро: чаму ж не раздаць сваім работнікам хоць на скорм скаціне?

Старая зайшла ў краму, людзей стаяла нямнога, здалося — усіх іх хвалюе толькі адзінае: факт яе «падману». У грудзях пякло і казытала. Пякло ад сораму за «падман», думалася, трэба было б па «совесці» ад парога на ўвесь магазін заявіць: «Мой дзед памёр. Яму ўжо не паложана прадукту». Казытала ж у грудзях нязгода з сабой, жаданне не страціць дабро, усё ж бягучы год ён амаль што ўвесь пражыў, значыць і яму паложана…

— Ну, пэўна апошні раз палучаю. Хутка памром, дык… — падключылася яна да агульнага перашэпта. — Колькі тут ужо засталося той жызні…

Чарга не рэагавала, людзі паціху сунуліся з заплечнікамі да прылаўка, адтуль — на выхад.

— Кожны дзень можа быць апошнім — такія ўжо гады́. Што тут жаліцца ці крыўдаваць…

Яна нібы супакойвала сябе бубненнем. Чарга перад ёй парадзела, але заходзілі новыя, старая паўтарала цяпер для іх тыя самыя словы.

— Яно і зразумела — хутка памром. Жыццё ня вечнае. Ніхто не ўцячэ ад смерці…

— Падстаўляйце — у што… — загадала прадавачка, спорна адлічваючы нормы бляшанак.

Колькасць прадукту не пакідала сумневу: дае на дваіх. Старая не супынялася, баючыся напалохаць шанец, толькі ўжо цішэй, сабе пад нос, вяла нуду.

— Ну, хоць астатні раз. А там, як Бог дасць. Усе памром некалі.

— Распісвайцеся ў дакументах.

Старая перадала торбы суседу, сама, ідучы за ім, спынілася ў дзвярах, азірнулася.

— Ужо… Ужо памёр… — праказала яна ў залу і выйшла з крамы.

# Закон Нябёс



Віктар САЗОНАЎ

## Нам выпаў лёс

*Які цяжкі з табой нам выпаў лёс…
Хто з нас такім няшчасным нарадзіўся…
Нібы хацеў вады, ды не данёс,
ужо падняў збанок, а ён разбіўся,
на тысячы кавалкаў разваліўся…*

*І не сабраць з падлогі чарапкі,
бо трэснула падлога пад нагамі,
а сцены знесла плынь жывой ракі,
прапаў і ганак недзе за гарамі,
а перад намі тое, што за намі…*

*Як быццам бы зайздроснае Быццё
адпомсціла за нашае Каханне,
і так ураўнаважыла жыццё,
прынесла беды, гора, раставанні,
яго зацьміўшы мілае світанне…*

*А можа ў гэтым крыецца віна,
што моцныя пачуцці — таямніца,
і выпіўшы кахання, як віна,
за тое мусіш шчодра расплаціцца,
і колькі не плаці — не разлічыцца…*

*Адно пытанне маю да Нябёс:
"Нябёсы, вы пра нас ужо забылі?!!"
Які цяжкі з табой нам выпаў лёс!
З такім абодвух, хіба, нарадзілі,
і на адну дарогу ахрысцілі…*

## Рэанімова*

*Якія не былі б умовы,
а выйдзе ўсё наадварот,
і нацыя, без роднай мовы,
не расквітнее як народ.*

*Заві дачкою або сынам,
адказам будзе — немата,
таму што кожная краіна
без роднай мовы — сірата.*

*Тады глядзіцца як у коме,
з сумневамі, ці будзе жыць,
хто на сваёй не можа мове
сябе на людзях заявіць.*

*Сіроцкія сагнуцца спіны,
у родных хатах і ў гасцях,
бо мова — маці для краіны,
а бацька — герб яе і сцяг.*

*У тым вялікае значэнне,
каб ганарыўся даўні род,
бо толькі ў гэтым вымярэнні
квітнее іх дзіця — народ.*

*Адкіньце нудныя прамовы,
што нам рабіць, каго вучыць,
а паспрабуйце роднай мовай
хаця б з сваімі гаварыць.*

*Злучаць свае павінна слова,
што ёсць, што будзе і было,
бо маці для народа — мова,
што праз вякі нясе святло.*

## Сабака

*Сабака вые на бяду,
аж сэрца ные.
Не п'е ваду, не есць яду,
а толькі вые.*

*Імкнуцца разагнаць нуду
усе жывыя,
адзін сабака на бяду
да болю вые.*

*Куды не гляну, не пайду,
паўсюль нямыя,
а вось сабака на бяду,
у голас вые.*

*Маўчаць авечкі, конь і кот,
як вартавыя,
а гэты дык наадварот,
сядзіць і вые.*

*Як яго знакі распазнаць,
хто дапаможа?
Ні расказаць, ні паказаць,
бядак не можа!*

*Па кім душа яго баліць?
Каго ратуе?
Па тым, каторы, можа быць,
яго не чуе?!*

*І гэтак жаласна скуліць,
той небарака…
Гарэлкі хочацца наліць,
і выць сабакам…*

*…І я крычу адно ў нябыт
пра злыя знакі!..
Напэўна, ўсім ужо абрыд,
як той сабака.*

## Пра шчасце

*У кагосьці шчасця многа
нават ля свайго парога,
толькі вось не нам.
Ну а нам нідзе нічога,
нават дальняя дарога —
шчасце цыганам.*

*Ну а нам адна нядоля…
Хто я на жыццёвым полі?
Не маскаль, не пан,
не жабрак, не ваявода,
не з кашэрніцкага роду,
нават не цыган.*

*Мы сваю шукаем волю
там, дзе пагублялі долю,
дзе яе няма.
Хоць і ёсць туды дарога,
там не знойдзеш анічога,
акрамя ярма.*

*І не ведаем, ці біцца,
ці мо лепей памаліцца, —
хіба ўсё адно.
Мы змагаемся без веры,
і свой горкі лёс без меры
віп'ем, як віно…*

## Я перастаў баяцца

*Я перастаў баяцца,
што прыйдуць па мяне…
Паехаць ці застацца —
усё яно міне…*

*Чаго чакаў на штодня,
што будзе толькі горш,
дык гэтага вось сёння
я не баюся больш.*

*Я болей не баюся,
калі грукоча ліфт,
сумую і смяюся,
запісваю на ліст.*

*І цешуся, тамлюся
тым светлым пачуццём.
Я болей не баюся —
жыву сваім жыццём.*



Фота А. Ганаровіча

*А прыйдуць, арыштуюць, —
дык так таму і быць;
засудзяць, не засудзяць,
а трэба далей жыць.*

*Бо пройдзе і забудзе, —
такі закон Нябёс.
А будзе так, як будзе:
хай вырашае Лёс.*

*Цяпер жа, прызнаюся,
ганю сумневаў прах,
адзінага баюся:
каб не вярнуўся страх.*

## Недачысцец

*Жывеш у мроях ці вандруеш босым,
ніяк не зразумееш гэты свет,
як ты паэт — дык ты недафілосаф,
калі ж філосаф — дык недапаэт.*

*Ілжэ, як п'е, прадажны аналітык,
ды праўдзе варта зазірнуць у твар,
змагар заўсёды ёсць недапалітык,
палітык жа — заўжды недазмагар.*

*У гэтым годзе, кажуць у народзе,
сумленнем трэба падпісаць хаўрус,
як беларус — дык на недасвабодзе,
як на свабодзе — недабеларус.*

*Усе сабе адмераюць па стаўцы
ды спадзяецца кожны тут і там,
нібы яны — недахрыстапрадаўцы,
і ў недабожы трапяць недахрам.*

*На недасуд зямны ж свая прычына,
была і ёсць, і вечна мусіць быць,
і ты мужчына — ці недамужчына,
і як далей ты недазможаш жыць.*

## Беларусь

*Беларусь — гэта ты,
Беларусь — гэта я,
Нашы працчуры дзеці,
сябры і сям'я,
ды нашчадкі народа,
што будзе тут жыць,
каб свабоду краіны
сваёй бараніць!*

*Беларусь — гэта родны
і бачны абсяг,
гэта рыцарскі герб,
гэта вольнасці сцяг,
Беларусь гэта веліч
геройскіх падзей,
гэта стойкасць і вартасць,
ды годнасць людзей!*

*Беларусь — гэта вера,
надзея, любоў,
тут ахвяры і слёзы,
пакуты і кроў,
тут каханне і шчасце,
ды воля Нябёс,
нам прызначаны шлях,
свая доля і лёс!*

*Беларусь — гэта гонар
за даўні народ,
за айчыну сваю,
наш праслаўлены род,
Беларусь ёсць малітвай,
дзе крыж і псалмы,
Беларусь — гэта ты,
гэта я, гэта МЫ!*

## Хвіліна

*Я чакаю цябе сярод сноў,
дзе ты крокам ідзеш
каралевы…
А мне сняцца
маўклівыя дрэвы,
ну а ты не прыснілася зноў…
Я чакаю цябе сярод сноў…*

*Тыя дрэвы,
што бачыў у сне,
я не знаю,
якіх было болей:
клёнаў,
соснаў,
дубоў
ці таполяў?..
І чаму яны сніліся мне?
Тыя дрэвы,
што бачыў у сне…*

*Я шукаю цябе сярод іх,
сярод пушчы,
дубровы
і гаю,
у рабін і бярозаў пытаю,
дзе слязінак даткнуцца тваіх…
Я шукаю цябе сярод іх…*

*Ты калісьці прыйшла
да мяне,
пад ласкавага ветру напевы,
як яшчэ мне
не сніліся дрэвы…
Аднавіць бы той дзень
хоць у сне…
Ты калісьці прыйшла
да мяне…*

*Аднавіць бы той дзень —
хоць у сне,
дзе жадаем каханню скарыцца,
дзе твой погляд
надзеяй іскрыцца
і свой лёс ты
даверыла мне…
Аднавіць бы той дзень —
хоць у сне…*

*Зноў хачу з той хвіліны пачаць,
дзе не скрыўдзіў яшчэ ані разу
гэты погляд…
І даўнюю фразу
буду сотню разоў паўтараць…
Зноў хачу
з той хвіліны пачаць…*

**«Рэанімова» — так у васьмідзясятых гадах называлася незалежная самвыдатаўская газета ў Гародні.*

# Два апавяданні



Уладзімір ВАСЬКО

## Авечка

Гэта было ў Карэліі, даўно, задоўга да развалу Савецкага Саюза. Салдаты-навабранцы пастроіліся ў калідоры казармы на вячэрнюю паверку. Тут у асноўным былі беларусы, некалькі хлопцаў з Расіі, два з Украіны, тры з Грузіі, адзін з Эстоніі.

Сяржант, старaслужачы, Фёдараў па спіску выклікáў кожнага.

— Радавы Дурнеў.

— Я.

Па шарэнгах прайшоўся лёгкі смяшок.

— Смяяцца ў страі забаронена! — строга папярэдзіў сяржант і працягваў далей: — Радавы Шастак.

— Тут два Шастакі, — азваўся з шэрагаў салдат. — Які?

— Леанід.

— Я.

— Сяргей Шастак.

— Я.

— Радавы Авечка.

— Я.

— Дык Авечка не радавы, а радавая, — выкінуў рэпліку Дурнеў.

— Хто сказаў? Выйсці са строю!

Дурняў выйшаў і стаў перад навабранцамі.

— Чатыры нарады па-за чаргою! — гучна абвясціў сяржант Фёдараў.

— Дык авечка жаночага роду, — апраўдваўся Дурнеў.

— Пяць нарадаў па-за чаргою. З заўтрашняга дня пойдзеш на кухню чысціць бульбу. Станавіся ў строй.

Фёдараў акінуў позіркам салдат, глянуў у спісак і працягваў:

— Радавы Бабёр.

— Не Бабёр, а Бобер, — папраівіў навабранец сяржанта.

— Добра пастаўлю націск на «о». Радавы Казёл.

— Я.

— Радавы Рабакабыла.

— Я.

— Дык не радавы, а радавая, — зноў не ўтрымаўся Дурнеў. — Усё ж такі кабыла…

Фёдараў зноў выклікаў са строю Дурнева і сказаў:

— Адбудзеш нарады на кухні — і на тыдзень пойдзеш на гаўптвахту.

Дурнеў яшчэ не ведаў, што адбываць чатыры нарады на кухні — гэта пакута. Патрэбна было ноччу, у сырым, халодным памяшканні ўручную чысціць бульбу. Вочы зліпаюцца, хочацца спаць, а перад носам гара бульбы, і да пяці гадзін раніцы яе патрэбна пачысціць. Канечне, тут бываюць і салдаты, што ў чарговым нарадзе, але яны суткі адбылі — і ў казарму, а ты застаешся на чатыры суткі. Цяжка. Вельмі цяжка. А гаўптвахта яшчэ больш горкая пілюля…

Радавы Багдзель замест "Я" выкрыкнуў «Прысутнічаю!», аднак сяржант Фёдараў не пакараў яго, а толькі папярэдзіў усіх:

— Адказваць не «ёсць», не «прысутнічаю», а «я». "Я" і толькі «я».

За месяц нас усё-ткі абламалі, навучылі, як трымаць язык за зубамі ў страі, не пярэчыць камандзірам, і на ўсе загады толькі казаць: «Слухаюся!».

Авечка ж хутчэй за іншых засвоіў воінскую навуку, і неўзабаве яго здымак з'явіўся на Дошцы гонару ў Ленінскім пакоі, крыху пазней яму прысвоілі званне яфрэйтара — і служба пайшла даволі гладка.

Адзін выпадак увогуле вывеў яго на шырокую дарогу славы. Ён нёс некаравульную службу на аэрадроме. Праходжваўся з аўтаматам туды-сюды, акідваў пільным позіркам самалёты, прастору вакол іх, недалёкі лес, скалы. І раптам прыкмеціў, як нехта амаль непрыкметны з кустоў фатаграфуе аэрадром. Гэта выклікала падазрэнне. «Затрымаць», — мільганула думка ў свядомасці яфрэйтара. Авечка зрабіў выгляд, што нічога не бачыў, не пазіраў у той бок, а схаваўся за самалёты, прайшоўся далей, абмінуў вялізную скалу і праз кусты цішком, крадучыся, як ліса, прабіраўся да таго месца, дзе знаходзіўся фатограф. Заставалася некалькі метраў, як той азірнуўся і ўстрапянуўся.

— Стой! Страляць буду! — моцна выкрыкнуў Авечка, трымаючы напагатове аўтамат.

Для незнаёмца стала зразумелым, што ўцячы немагчыма: гэты малады яфрэйтар выпусціць па ім чаргу. Ступіўшы яшчэ з два крокі, Авечка загадаў:

— Ідзі прама на аэрадром. А я за табою. Малейшы рух управа ці ўлева — адразу секану з аўтамата.

Незнаёмец ужо, мабыць, не думаў, як уцячы, а планаваў, як апраўдацца, бо фатаграфаваць ваенныя аб'екты забаронена. Ён ішоў роўна… А на аэрадроме стаялі рэактыўныя самалёты першага пакалення — вось, напэўна, што яго цікавіла.

Раніца была хмурнаватай, палёты яшчэ не пачыналіся. «Ды і навогул ці будуць яны сёння», — прыкінуў Авечка.

Але ваеннаслужачыя ўжо мітусіліся. Яны, мабыць, не прыступілі яшчэ да выканання сваіх службовых абавязкаў, аднак былі на месцы.

«Куды яго весці? — азадачыў сам сябе яфрэйтар. — А, паганю прама ў штаб да камандзіра лётнага палка».

Некалькі дзяжурных афіцэраў дапамаглі Авечку ў яго намеры. І вось незнаёмы фатограф прадстаў перад палкоўнікам Нікіфаравым.

— У чым ён правінаваціўся? — спытаў палкоўнік Авечку.

— Фатаграфаваў нашы самалёты.

— Ах так!..

Нікіфараў выклікаў афіцэра з асабовага аддзела, начальніка штаба і яшчэ некалькі службовых асоб. Калі яны з'явіліся ў кабінеце, ён сказаў яфрэйтару Авечку:

— Працягвайце несці службу. А з дастаўленым фатографам мы разбярэмся.

Фатографа арыштавалі, наладзілі допыт, праявілі плёнку — аказалася, што гэта быў сапраўдны амерыканскі шпіён.

Палкоўнік Нікіфараў прыкінуў: «Усё ж неяк патрэбна заахвоціць Авечку. І як гэты выпадак пакінуць без увагі?».

Праз паўмесяца ён выклікаў у свой кабінет камандзіра роты радыёрэлейных механікаў маёра Ломцева і яфрэйтара Авечку.

— Што вы можаце, маёр, сказаць пра свайго воіна? — звярнуўся камандзір палка да Ломцева.

— Толькі ўсё самае добрае. Ён выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі, смелы, дысцыплінаваны, вынослівы. Яго здымак змешчаны на Дошцы гонару.

— Мы прысвоім яму званне сяржанта і пашлем хадайніцтва ў Міністэрства абароны аб прысваенні яму звання Героя Савецкага Саюза. Як вы, маёр, глядзіце на гэта?

— Я толькі за, — адказаў Ломцеў.

— Але ёсць адна няўвязка, — працягваў Нікіфараў, — прозвішча… Ну як будзе гучаць Герой Савецкага Саюза Авечка?

— Можа, паставіць Баран? — ні то з гумарам, ні то сур'ёзна прапанаваў Авечка.

— Дык гэта ж амаль адно і тое ж — Баран ці Авечка, — павысіў голас камандзір палка. — Давай напішам Баранаў. Герой Савецкага Саюза сяржант Баранаў. Гучыць? Гучыць.

— Пішыце, — адказаў Авечка.

— Патрэбна змяніць прозвішча тады і ў ваенным білеце, — настойваў на сваім Нікіфараў.

— Мяняйце.

Так і зрабілі.

Званне Героя Савецкага Саюза сяржанту Баранаву было прысвоена. Яго назначылі камандзірам аддзялення. У палку толькі і гаварылі пра пільнасць і мужнасць гэтага няўрымслівага воіна, яго кемлівасць.

На вячэрняй паверцы, калі Фёдараў (які ўжо насіў пагоны старшыны) выклікаў па спіску «Герой Савецкага Саюза сяржант Баранаў», ніхто ўжо не хіхікаў. Усе з павагай і зайздрасцю пазіралі ў бок Баранава і маўчалі.

…А радавыя Дурнеў, Казёл і Рабакабыла сваіх прозвішчаў не мянялі…

*2022 г.*

## Злодзей

У нашым двары катоў трохі больш, чым сабак. І жывуць яны параўнаўча не горш, чым у гады перабудовы. Жанчыны ці дзяўчаты, праходзячы збоч іх, стараюцца адшчыкнуць ім лівернай, крывяной альбо варанай каўбасы, некалькі дробных кавалачкаў іншай яды — і кінуць на траву ці пакласці на тратуар. Мужчыны ў гэтых адносінах больш скупыя: яны, акрамя недакурка, нічога лепшага прапанаваць катам не могуць.

Праўда, у двары ёсць нямала і штатных даглядальшчыц гэтых бяскрыўдных мяўкаючых жывёлін. Хоць бы ўзяць Валянціну Дарафееўну, пенсіянерку, у мінулым настаўніцу біялогіі. Жыве яна на чацвёртым паверсе, але яшчэ, як матылька, лётае ўгору-ўніз — і заўсёды прыносіць пачастунак катам. Тры разы на дзень корміць іх: ранкам, у абед і пад вечар. І ежу носіць не абы чым, а ветчыной, балыком, паляндвіцай.

Грошай у Валянціны Дарафееўны хапае. Яна нікому фінансавай дапамогі не аказвае, бо адзіны сын, палкоўнік у адстаўцы, жыве ў Мінску, атрымлівае вялікую пенсію, сам не ведае куды дзяваць грошы. Адзення ў былой настаўніцы біялогіі таксама горы — яго хоць выкідай на вуліцу. Застаецца толькі купляць прадукты для сябе і для катоў.

Яна свае шчодрасці ні ад кога і не хавае. Калі адзін раз да кашынай сталовай падышоў нехта Багас, таксама пенсіянер, былы сантэхнік завода «Лідсельмаш», Валянціна Дарафееўна расказала і паказала яму, чым і як харчуюцца яе каты. Той акінуў позіркам сталовую і ўбачыў, што на цагляным выступе з падвала, сапраўды, стаяць тры талерачкі, запоўненыя мяснымі прадуктамі. Багас нават пазайздросціў катам з нагоды іх такога раскошнага харчавання.

— Ці даеш ты ім хоць вады? — спытаў ён.

— Дык вунь жа ўнізе стаіць слоічак з вадою. Паядуць, пап'юць — што яшчэ трэба?

— Няблага ўладкаваліся…

Сам Багас жыве ў суседнім пад'ездзе, на трэцім паверсе, і таксама ўтрымлівае кошку, але на двор яе не выпускае: баіцца, каб не навяла ў кватэру кацянят. Са сваёй слабенькай пенсіі ён, Багас, такую араву не пракорміць. А кот Валянціны Дарафееўны ходзіць у агульным статку і харчуецца з агульнай кухні, дадому прыходзіць толькі начаваць — і то не заўсёды.

Стоячы аднаго разу на балконе і назіраючы, як Валянціна Дарафееўна выкладвае катам на абед чарговыя порцыі пачастункаў, Багас падумаў: «А чым я горшы за катоў, што яны харчуюцца лепш, чым я?». І спантанна рашыў абкрадаць катоў.

А Валянціна Дарафееўна не заўсёды стаіць пры кармушцы. Яна іншы раз пакладзе правіянт — і адпраўляецца ў сваё жытло. І тут Багас спаўна выкарыстоўвае ўдалы момант: ён хапае цэлафанавы мяшок, збягае ўніз, засыпае прысмакі — і шусь у пад'езд. У кватэры дзеліцца прысмакамі з коткай — ёй менш, сабе больш. А дваровыя галодныя каты прыходзяць да кармушкі і голасна мяўкаюць: няма чаго есці. Тады Валянціна Дарафееўна высоўваецца на балкон, пазірае ўніз і думае: «Няўжо вам мала? Столькі ўсяго наклала — а вы ізноў просіце». Яна зноў нарэзвае мясных прадуктаў і выносіць на двор.

Два разы запар абкрадваць катоў Багас не рашаецца: а раптам здагадаецца… Ён пачаў хітрыць: калі-нікалі не ўвесь забірае правіянт, а толькі частку — каты не так галосяць. Увогуле, усё ішло да пары-да часу даволі ўдачна: мінуў месяц, а Валянціна Дарафееўна на злодзея знянацку ні разу не наляцела.

Але ж чалавеку заўсёды ўсяго мала — і Багас вырашыў пашырыць свой бізнэс, даследаваў суседнія двары. Ды марна: там катам на зямлю выкідвалі ў асноўным крывянку, ліверку і курыныя косткі. Да таго ж нямала набягала і супернікаў — бадзячых сабак, якія апераджалі яго, — і Багас вярнуўся ў свае ўладанні.

Каб стварыць хоць які запас грошай, ён пачаў абкрадваць дваровых катоў на поўную моц: адбіраў у іх прадукты і раніцай, і ў абед, і вечарам. Мяўкалы пачалі худзець, прапашайнічаць — і ў Валянціны Дарафееўны запульсавала падазрэнне. Яна апытвала людзей са свайго дома: можа, хто бачыў злодзеяў, але на першым паверсе размешчаны магазіны, аптэка, і ніхто нічога не мог убачыць, на верхніх паверхах таксама не знайшлося дасведчаных. А вось вокны дома, што насупраць, акурат выходзяць на кашыную кармушку, і з іх усё добра бачна. І адна знаёмая Валянціны Дарафееўны сказала, што Багас часта круціцца каля кармушкі. «Але я думала, — удакладніла знаёмая, — што ён падкормлівае катоў, бо заўсёды спіною стаіць да нас».

Валянціна Дарафееўна наладзіла сачэнне. На гэты раз яна больш паклала прадуктаў катам, чым у звычайны дзень, сама падбегам — на чацвёрты паверх, і праз залу — шмыг на балкон. Стаілася і чакае. І вось рыпнулі дзверы ў суседнім пад'ездзе, на пляцоўцы паказаўся Багас. Ён хуценька спусціўся з прыступкаў уніз, дайшоў да кармушкі — і давай з талерчын высыпаць у цэлафанавы мяшэчак яе прадукты.

— Злодзей! — крыкнула Валянціна Дарафееўна.

Багас атарапеў. Ён не ведаў, ці высыпаць кавалачкі мяса назад у сподкі, ці ўцякаць з імі ў свой пад'езд. Рашыў высыпаць.

— І як табе не сорамна адбіраць у катоў яду?! Пажылы мужчына, а чым займаешся…

У адказ ён нічога не сказаў, а толькі скруціў дулю і рэзка пасануў яе ўгору, на балкон. Гэта дарэшты раззлавала Валянціну Дарафееўну. Яна вярнулая ў залу і, аналізуючы абстаноўку, дастала з шуфляды чысты ліст паперы, узяла аўтаручку і напісала заяву на імя старшага суддзі горада Педіпчыка. Унізе пазначыла нумар свайго дамашняга тэлефона.

Праз тыдзень Піліпчык пазваніў і запрасіў прыйсці ў яго кабінет — неадкладна. Валянціна Дарафееўна замітусілася, на хуткую руку адзела, што з лепшага — і ў дарогу. Праз мінут пятнаццаць была ў кабінеце суддзі.

— Ну вось што, — сказаў Піліпчык, — я ўважліва прачытаў вашу заяву і не магу нічым абрадаваць. Разумееце, у крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь няма такога артыкула, які прадугледжваў бы пакаранне за абкраданне катоў. Калі б гэты самы Багас краў прадукты, скажам, у магазіне, на рынку ў людзей ці на мясакамбінаце, альбо як-небудзь прабраўся б у вашу кватэру і апустошыў бы халадзільнік, то тут ад турмы яму не ўдалося б выкруціцца. А ў дадзеным выпадку…

— Але ж прадукты мае́, — запярэчыла Валянціна Дарафееўна.

— Пакуль былі ў вас, лічыліся вашымі. А як толькі вы іх аддалі катам, яны ўжо сталі кацінай уласнасцю. А артыкула аб крадзяжы прадуктаў у катоў у кодэксе няма. Суд нават не мае права аштрафаваць Багаса, бо гэта было б незаконным. Мы ж кіруемся толькі законам. Прабачце, іншага я нічога не магу прыдумаць.

— Як мне тады адпомсціць Багасу за крадзёж?

— Стварыце вакол яго ў двары абстаноўку нецярпімасці. Расказвайце людзям пра яго несумленныя ўчынкі, схільнасці да абкрадання катоў… Няхай жыльцы вашага дома і суседняга пасмяюцца з Багаса. Можа, гэта падзейнічае на яго?..

Валянціна Дарафееўна так і рабіла, аднак непакараны Багас нічога не ведаў пра яе захады і як абкрадаў катоў, так і абкрадвае, толькі ўжо больш асцярожнічае…

Некалькі разоў былая выкладчыца біялогіі запілінгавала былога сантэхніка з «Лідсельмаша» ў час крадзяжу і патэлефанавала Піліпчыку, каб той зрабіў Багасу якую ўнушальнасць, напалохаў бы турмой, ці што…. Праўда, Піліпчык выклікаў Багаса да сябе на гутарку і строга спытаў:

— Навошта ты крадзеш балык у дваровых катоў?

— Першы раз чую.

— Валянціна Дарафееўна казала.

— Гэтая Валянціна Дарафееўна — першая пляткарка ў нашым мікраёне. Яна расказвае ўсім, што Зэлік Іванов ходзіць да Мілкі Панасовай у дом, што насупраць нашага, а Мілка, у сваю чаргу, ходзіць у наш дом да Шуркі Бузука. А гэта няпраўда.

— Што няпраўда?

— Ну што Зэлік ходзіць туды, а Мілка прыходзіць сюды.

— Чым яна яшчэ займаецца?

— Хто яна? Мілка?

— Ды не, Валянціна Дарафееўна.

— Бывае, калі-нікалі корміць катоў. Але дае ім толькі прыгаралыя на патэльні свіныя скуркі. Каб не прахожыя людзі — гэтыя каты даўно паздыхалі б…

— І ўсё?

— Не… Бывае яшчэ, па гадзіне чытае катам лекцыю, каб не сядалі на лаўкі, каб не лазілі на дрэвы, каб уцякалі ад сабак. Яна думае, што каты разумеюць яе. А яны проста стаяць, пазіраюць ёй у вочы і чакаюць, каб дала чаго-небудзь паесці. А яна іх словамі корміць…

— Чорт з вамі разбярэцца і з вашымі катамі. Вон адсюль!!!

*2022 г.*

# «Спыніся, імгненне! Спыніся, Яўгенія!»



Тамара АЎСЯННІКАВА

***2023 год — юбілейны год Яўгеніі ЯНІШЧЫЦ (20. 11. 1948—25. 11. 1988). Час імклівы, многае забываецца, сціраецца з памяці. Але не забыта імя паэткі: яе творчасць запатрабаваная, яе лёс прыцягвае ўвагу даследчыкаў і чытачоў.***

***Сёння мы пагаворым пра імгненне, якое зафіксаваў Анатоль ВЯРЦІНСКІ 54 гады назад у вершы, прысвечаным Яўгеніі Янішчыц.***

Верш «Сустрэча на Паркавай магістралі» я атрымала ад Анатоля Вярцінскага замест успамінаў пра Яўгенію Янішчыц. Каля верша ад рукі быў тэкст: *«Так тады называлася вуліца, якую мы сёння ведаем як праспект Машэрава. І на вуліцы гэтай знаходзіўся (знаходзіцца, здаецца, і цяпер) студэнцкі інтэрнат № 4 БДУ — несамавіты, чатырохпавярховы, з шэрай цэглы будынак, — у які і вярталася пасля заняткаў студэнтка філфака Жэня Янішчыц. Сустрэча адбылася якраз на віадуку, які перакінуты над вуліцай Горкага. Верш, помню, напісаўся адразу, па свежым уражанні, і меў назву: «Студэнтцы БДУ, паэтэсе Яўгеніі Янішчыц». Радкі верша, які напісаны каля дваццаці гадоў назад і не быў надрукаваны па розных прычынах, гавораць, спадзяюся, самі за сябе, у тым ліку і пра сваю фактычную аснову. Таму застаецца толькі дадаць, што з вершам гераіня яго была знаёма, з удзячнасцю прыняла яго, і гэта з'яўляецца сёння для мяне хоць нейкай уцехай перад яе светлай і трагічнай памяццю».*

Прадмова гэтая напісана аўтарам адразу пасля трагічнага сыходу паэткі, бо разам з вершам яна была надрукавана ў газеце «Літаратура і мастацтва» 9 снежня 1988 года. У «Выбраных творах» (Мінск, «Кнігазбор», 2009. — С. 71—72) А. Вярцінскі датуе верш 1969 годам. Анатоль Ільіч памыліўся з паверхамі будынка інтэрната, які быў пяціпавярховым. Яго знеслі ў 2011 годзе. А вуліца Паркавая магістраль называецца цяпер «праспект Пераможцаў».

Мушу заўважыць, што пры жыцці Яўгеніі Янішчыц ёй было прысвечана каля дзесяці вершаў. У ліку аўтараў: Н. Загорская, А. Канапелька, Г. Каржанеўская, А. Лойка, П. Панчанка. Самыя першыя прысвячэнні адносяцца да 60-х гадоў. Іх два: Сяргея Панізніка «А — Я» (3. 07. 1967 г., Львоў) і Анатоля Вярцінскага «Сустрэча на Паркавай магістралі» (1969). Вершы надрукаваны ў другім томе чатырохтомнага выдання «Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі» (уклад.: С. У. Калядка, Т. П. Аўсяннікава. — Мінск, «Беларуская навука», 2017. — С. 428, 371). Усяго ў тым томе 140 твораў, прысвечаных паэтцы: вершы, цыклы вершаў, балады, паэма «Рыфма ў залатым пярсцёнку» В. Макарэвіча і п'еса «Вясельны хутар» В. Коўтун.

Але гаворка наша — пра верш Анатоля Вярцінскага «Сустрэча на Паркавай магістралі», які мяне ўразіў мелодыкай, вобразнасцю, адносінамі прызнанага пісьменніка да юнай паэткі, у якой яшчэ ніводнага паэтычнага зборніка не было, прадбачаннем яе шляху. І тым, безумоўна, што ён — у ліку першых прыжыццёвых прысвячэнняў.

*Не ведаю, як хадзіла Містраль.*
*Ды бачу: парывіста, крылата*
*ідзе, вiдаць, да свайго*
*інтэрната,*
*па вуліцы Паркавая магістраль*
*Жэня Янішчыц... Як ідзе!*
*Як чарадзей ідзе па вадзе.*
*Як самнамбул ідзе у сне.*
*Ці як маладзіцы з яе Велясніцы*
*бягуць ранічкою па расе —*
*у грыбы альбо ў суніцы.*
*Калі яна і ад «мира сего»,*
*то ад таго, які лятае,*
*ад свету Цёткі і Сафо,*
*ад свету Ахматавай і Цвятаевай.*
*Бачу: Янішчыц ідзе цераз*
*мост...*
*Спыніся, імгненне! Спыніся,*
*Яўгенія!*
*Не чую Яўгенія і імгненне.*
*Ляцяць яны над мастом,*
*наўпрост.*
*Вецер, гляджу, абвявае іх.*
*Ляцяць над прахожымі,*
*над машынамі,*
*над нашымі клопатамі*
*мышынымі.*
*Ляцяць, пакідаючы нас, зямных.*
*Вось вам і разгадка, і адказ, —*
*абагульняю я прыватнасць, —*
*што ў вершах Янішчыц*
*уражвае нас:*
*крылатасць!*

Як пішуцца вершы? Ва ўсіх паэтаў па-рознаму. Б. Пастэрнак некалі заўважыў: «И чем случайней, тем вернее слагаются стихи навзрыд». Верш «Сустрэча на Паркавай магістралі» пісаўся не «навзрыд», а ўзнёсла, «па свежым уражанні». Выпадковая сустрэча эмацыянальна ўзрушыла аўтара, выклікала пэўныя асацыяцыі — і нарадзіўся твор. Па словах самога Вярцінскага, Жэня яго не заўважыла, праляцела міма, а ён зачараваны глядзеў ёй услед.

Паэтычныя творы аналізуюцца ў адпаведнасці з іх графічным запісам. За аснову я ўзяла варыянт першай публікацыі. Ён скарыстаны і ў другім томе чатырохтомнага выдання.

Моцнай пазіцыяй верша становіцца назва. Яна ўказвае на прычыну ўзнікнення твора, падпарадкоўвае сабе яго архітэктоніку і ўспрыняцце. Дамінантамі з'яўляюцца ўласныя імёны, назоўнікі *мост, вецер* і дзеясловы *бачу, ідзе, бягуць, ляцяць*. Кампазіцыйнае кальцо ўтвараюць словы крылата і крылатасць.

Першы радок у адносінах да ўсяго тэксту выступае ў якасці антытэзы: *не ведаю / ды бачу.*

Тэкст умоўна можна падзяліць на тры часткі: першая — 1—14-ы радкі, другая — 15-ы—22-і, трэцяя — 23-і—26-ы. У першай частцы аўтар, апісваючы рэальную падзею: сустрэчу з Жэняй Янішчыц, надзяляе яе здольнасцямі чарадзея і самнамбулы. Параўноўвае з Велясніцкімі маладзіцамі і з самымі таленавітымі жанчынамі-паэткамі.

У другой частцы блізкае зямное імя Жэня становіцца больш узвышаным — Яўгенія. Стаіць яно поруч з абстрактным паняццем «імгненне» і аб'яднана з ім унутранай рыфмай. Іх саюзнік — вецер: *«Вецер, гляджу, абвявае іх»*. Яўгенія,



Яўгенія Янішчыц
у часы школьніцтва-студэнцтва

імгненне і вецер узвышаюцца над зямнымі праблемамі, што сімвалізуе свабоду і хуткаплыннасць быцця: *«Ляцяць яны над прахожымі, над машынамі, / над нашымі клопатамі мышынымі. / Ляцяць, пакідаючы нас, зямных»*.

У трэцяй частцы аўтар гаворыць пра адметнасць паэзіі Янішчыц.

Верш адносіцца да танічнай сістэмы вершаскладання, астрафічны, з двух-, трох-, і чатырохіктавымі неўпарадкаванымі радкамі. Інтэрвалы паміж акцэнтамі ад 0 да 5. Радкі маюць розную колькасць складоў (ад 6-і да 13-і). У сямі радках аўтар карыстаецца “лесвічкай”, што ўплывае на рытмічную структуру верша і яго мелодыку. Рытмічную паліфанію ўтвараюць і разнастайнасць рыфмоўкі (апаясаная, сумежная, перакрыжаваная), і разнастайнасць рыфмаў (мужчынскія, жаночыя, дактылічныя). Радкі 23-і і 25-ы фармальна халастыя, маюць адпаведна мужчынскую і жаночую клаўзулы. Але адсутнасць рыфмы ў 25-м радку ў адносінах да 23-га кампенсуецца ўнутранай рыфмай, перанесенай у 26-ы радок (*адказ — нас*). Схема рыфмоўкі выглядае наступным чынам: аББаввгДгДеЖе**Ж**з**К**Кзл**ММ**лхНХН.

У творы 26 радкоў, 120 слоў (некаторыя з іх паўтараюцца ад 2-х да 6-і разоў). Найбольшую колькасць у тэксце складаюць назоўнікі (вобразы). У іх ліку дзесяць уласных імёнаў, назва вуліцы і назва вёскі.

Другую пазіцыю (па колькасці слоў), не менш уплывовую, займаюць дзеясловы. Прыслоўі *парывіста, крылата, наўпрост* абазначаюць спосаб дзеяння. Ды і ў назоўніках *чарадзей* і *крылатасць* таксама падразумяваецца дзеянне. Верш пазбаўлены статыкі, тут усё ў руху.

Галоўная гераіня ідзе па вуліцы Паркавая магістраль. Паэт захапляецца яе хадою: *«Як ідзе!»*. Яна ідзе, *«як чарадзей ідзе па вадзе»*, што адрознівае яе ад звычайных людзей, гаворыць пра яе ўзнёсласць, адметнасць. Ідзе, *«як самнамбул ідзе у сне»*, што ўказвае на яе ўнутраную засяроджанасць. І ў той жа час хада Жэні Янішчыц нагадвае хаду маладзіц з яе вёскі Велясніца, якія *«бягуць ранічкою па расе — у грыбы альбо ў суніцы»*. Градацыя дапамагае стварыць вобраз гераіні, у якім спалучаюцца рысы чалавека зямнога і не «от мира сего». Далей паэт заўважае:

*Калі яна і ад «от мира сего»,*
*То ад таго, які лятае,*
*Ад свету Цёткі і Сафо,*
*Ад свету Ахматавай і Цвятаевай.*

Параўноўваючы Янішчыц з лепшымі прадстаўніцамі беларускай, рускай і чылійскай (згадаем і паэтэсу Містраль) літаратураў, а таксама літаратуры старажытнай Грэцыі, Вярцінскі ставіць яе ў адзін рад з імі.

Параўноўваючы Янішчыц з лепшымі прадстаўніцамі беларускай і рускай літаратуры, а таксама літаратуры старажытнай Грэцыі, Вярцінскі ставіць яе ў адзін рад з імі.

Аўтар хоча затрымаць імгненне і вобраз паэткі ў імгненні, выкарыстоўвае пры гэтым загадны лад: ***«Спыніся, імгненне! Спыніся, Яўгенія!»***. Але: *«Не чуюць Яўгенія і імгненне»*.

Наша знаходжанне на зямлі — імгненне. Янішчыц у гэтым імгненні стала вечнасцю.

Меў рацыю А. К. Талстой, калі пісаў: «Тщетно, художник, ты мнишь, что творений своих ты создатель!». Анатоль Вярцінскі падсвядома адчуў ранні сыход паэткі ў вечнасць: імгненне і Яўгенія ляцяць *«над мастом, наўпрост»*, *«ляцяць, пакідаючы нас, зямных»*. У міфа-паэтычным свеце беларусаў мост сімвалізуе саюз зямлі і неба (зямнога і боскага), а таксама пераход з аднаго стану ў другі: бінарная апазіцыя *жыццё/смерць*.

У апошніх чатырох радках аўтар робіць выснову:

*Вось вам і разгадка, і адказ, —*
*абагульняю я прыватнасць, —*
*што ў вершах Янішчыц*
*уражвае нас:*
*крылатасць!*

Сінтаксічна цэласнае выказванне *«што ў вершах Янішчыц / уражвае нас»* падзелена на два радкі. Такі перанос (анжамбеман) стварае эмацыянальную напружанасць маўлення і звяртае нашу ўвагу на выснову аўтара.

Анжамбеманы, паўторы, аднолькавыя сінтаксічныя канструкцыі празаізуюць мелодыку верша і робяць яго эмацыйна напоўненым.

У дадатак апошнія радкі аўтар сінкапіруе. Прадапошні радок мае шэсць складоў, апошні — восем. Ён запісаны лесвічкай, што вымагае чытача прыпыніцца, зрабіць паўзу і завяршыць верш экспрэсіўна, тым больш, што сказ клічны. На мелодыку верша, вядома, уплывае сінтаксіс. У творы 16 сказаў: 12 апавядальных (2 сказы заканчваюцца шматкроп'ем), 4 — клічных. Інтанацыя твора эмацыйна афарбаваная...

У жыцці і творчасці Яўгеніі Янішчыц прысутнічала «крылатасць». Яе паходку — імклівую, не па зямлі, а над зямлёю — мелі магчымасць бачыць многія. У свядомасці чытачоў яна назаўсёды застанецца птушкай: «Я непрыручаную птушкай жыву між сполахаў і дрэў». Апошнія радкі яе праграмнага верша «Непрыручаная птушка» гучаць, як запавет:

*Мяне ў палёце не скарылі.*
*А будзе штосьці не так — малю:*
*Скруціце стомленае крылле*
*І кіньце ў родную раллю.*

Скульптар Леў Гумілеўскі ўвекавечыў яе крылаты вобраз у надмагільным помніку.

А верш Анатоля Вярцінскага «Сустрэча на Паркавай магістралі» дае нам магчымасць зразумець чалавечую сутнасць Яўгеніі Янішчыц і яе паэтычны талент.

# «У свеце госць»: Пэр Фабіян ЛАГЕРКВІСТ



Алена ДАРАФЕЕВА

***Творчы шлях класіка шведскай літаратуры XX стагоддзя Пэра Фабіяна Лагерквіста (драматурга, празаіка, паэта, эсэіста, тэатральнага крытыка), які доўжыўся больш за паўстагоддзя, дзівіць сваёй цэльнасцю і самабытнасцю.***

Пэр Лагерквіст (*Pär Lagerkvist*) (1891—1974) — лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1951 года — быў узнагароджаны «за мастацкую сілу і абсалютную незалежнасць меркаванняў пісьменніка, які шукаў адказы на вечныя пытанні, якія стаяць перад чалавецтвам». За сваё доўгае жыццё Пэр Лагерквіст напісаў творы самых розных жанраў, быў паэтам і драматургам, аўтарам апавяданняў і эсэ, раманаў і аўтабіяграфічнай прозы. Яго тэксты адрозніваюцца прастатой і адшліфаванасцю формы, алегарычным стылем і зваротамі да біблейскіх і міфалагічных сюжэтаў, да тэм дабра і зла, пошукамі веры і сэнсу чалавечага быцця.

Будучы пісьменнік нарадзіўся ў мястэчку Векшё ў Паўднёвай Швецыі ў сям'і начальніка чыгуначнай станцыі. Пэр быў малодшым з сямі дзяцей і рос у набожнай пратэстанцкай атмасферы: у бацькоўскай хаце вісеў партрэт Марціна Лютэра, а галоўнымі кнігамі ў хатняй бібліятэцы былі Біблія, зборнік псалмоў і пропаведзяў.

Літаратурным дэбютам Лагерквіста стала апавяданне «Мацярынская любоў», надрукаванае ў мясцовай газеце ў 1906 годзе, калі аўтару было ўсяго пятнаццаць гадоў.

Пасля заканчэння гімназіі, дзякуючы падтрымцы сям'і і, найперш, старэйшага брата Гунара, школьнага настаўніка, Пэр у 1911 годзе змог паехаць ва ўніверсітэт ва Упсалу — вывучаць гісторыю літаратуры і мастацтва. У 1913-м пачаў працаваць у шведскай газеце «Svenska Dagbladet», па заданні якой ён паехаў у Парыж асвятляць выставу французскіх мадэрністаў. Гэтая выстава зрабіла на яго вялікае ўражанне, у першую чаргу палотны Пікасо.

Пасля гэтай паездкі Лагерквіст напісаў эсэ «Мастацтва слоўнае і мастацтва выяўленчае», якое стала яго эстэтычным маніфестам. У ім ён гаварыў аб бессэнсоўнасці забаўляльнай літаратуры — у адрозненне ад сучаснага мастацтва. Сапраўдная творчасць, маўляў, павінна быць у духу кубізму: простай, лаканічнай па форме, але глыбокай па змесце, падобная ў тым да Бібліі, ісландскага эпасу, помнікаў Старажытнага Усходу.

Сваім сапраўдным літаратурным дэбютам Пэр Лагерквіст лічыў паэтычны зборнік «Жах» (1916). Яго адкрываюць вершы, у якіх светаадчуванне чалавека ў свеце, які разбураецца, ахопленым жахамі вайны, цесна пераплецена з водгукамі асабістага душэўнага крызісу і выяўлена ў рытмічна разарваных, дысгарманічных радках. Пазней гэты зборнік быў расцэнены як першая праява экспрэсіянізму ў шведскай паэзіі.

Гады Першай сусветнай вайны Лагерквіст правёў у Даніі. Пазней, у 1925 годзе, у аўтабіяграфічнай аповесці «У свеце госць», ён пісаў, што яго юнацтва скончылася «ў разгубленасці, заблытанасці».

У той час ён шмат працаваў над п'есамі для тэатра. Яго першая апублікаваная п'еса «Апошні чалавек» (1917) паказвала глыбокія пакуты і пачуццё роспачы, выкліканыя вайной. У канцы 1910-х — пачатку 1920-х гадоў Пер Лагерквіст ездзіў па Еўропе, спрабаваў разабрацца ў сабе, вызначыцца з творчым метадам, здабыць асабістае шчасце. У 1918 годзе ён ажаніўся на маладой датчанцы Карэн Сёрэнсэн, з якой яго звязвалі няпростыя адносіны, ім спадарожнічалі разрывы і прымірэнні. Гэты шлюб аказаўся нядоўгім.

У 1925 годзе пісьменнік ажаніўся з Элен Хальберг, удавой шведскага мастака Йеста Сандэльса, з якой пражыў больш за сорак гадоў — да самай яе смерці.

У 1920 годзе Лагерквіст стварыў свой першы значны празаічны твор — аповесць «Усмешка вечнасці». У ёй можна знайсці важныя для ўсёй наступнай творчасці пісьменніка рэлігійныя вобразы і сімвалы, адлюстраванне вечных, экзістэнцыйных праблем: пошукаў ісціны і дабра, выбару жыццёвага шляху. Нечакана постаць Бога прадстаўлена ў выяве не ўсемагутнага Творцы, а сціплага старога-працаўніка, які пілуе дровы. І на адвечнае пытанне людзей аб сэнсе быцця і пакутаў гэты Бог-працаўнік адказвае: «Я зрабіў як мог».

Лагерквіст пісаў пра неабходнасць прымаць жыццё такім, якое яно ёсць, з усімі яго непазбежнымі супярэчнасцямі. «Давер да жыцця» стане ключавым паняццем для Лагерквіста ў час усеагульнага расчаравання ў жыццёвых каштоўнасцях. «Багацці жыцця нібы пакінутыя і забытыя. Мы цягнем на сабе толькі беднасць жыцця, яна зусім нас запаланіла. Мы носімся з ёй, як ненавіснік са сваёй нянавісцю, як хворы са сваёй хваробай. Абяздоленыя, жуем мы чэрствы хлеб галечы, праклінаючы таго, хто жуе з намі побач. А накрыты стол багацця стаіць некрануты, без гасцей» (эсэ «Вызвалены чалавек», 1939).

У 1933 годзе Пэр Лагерквіст здзейсніў падарожжа ў Палестыну і Грэцыю — свайго роду паломніцтва да святыняў еўрапейскай цывілізацыі. Шлях назад на радзіму ляжаў праз фашысцкія Італію і Нямеччыну, дзе — у апошняй — да ўлады толькі што прыйшоў Гітлер. У Берліне лунালі сцягі са свастыкай і праходзілі парады «карычневых кашуль».

Пісьменнік убачыў гэтае жудаснае сутыкненне гуманізму і варварства і адным з першых шведскіх пісьменнікаў выступіў супраць нацызму. Увосень таго ж года выйшла яго найважнейшая



Пэр Фабіян Лагерквіст

Фота wikimedia.org

аповесць «Кат», па якой аўтар таксама напісаў і п'есу. Тэатральныя пастаноўкі карысталіся вялікім поспехам у Паўночнай Еўропе. «Кат» стаў адной з першых кніг, спаленых нацыстамі, а шведскія прыхільнікі Гітлера спрабавалі зрываць пастаноўкі ў стакгольмскім тэатры. Дзеянне твора разгортваецца ў двух часавых пластах: у Сярэднявеччы і ў сучасныя аўтару дні, калі вонкавы глянец зацьмявае, па сутнасці, самыя нізінныя інстынкты, прагу гвалту і крыві.

Аб'ядноўвае дзве часткі аповесці алегарычная фігура Ката ў пунсовым адзенні, якое ўвасабляе сабой пазачасавую і метафізічную прыроду зла. У адным з інтэрв'ю ў сувязі з пастаноўкай п'есы Пэр Лагерквіст адзначаў: «"Кат" накіраваны супраць сучаснага гвалту, супраць тэндэнцыі ўзрастання гвалту ў чалавеку <...> і апелюе да ўсіх, хто становіцца на бок гвалтаўнікоў, як бы яны ні зваліся: нацыстамі, фашыстамі ці бальшавікамі».

У аповесці раскрываецца і тэма глыбокага песімізму пісьменніка: пошукі Бога марныя, Кату наканавана з веку ў век выконваць сваю страшную працу, пакуль ён не пакарае смерцю апошняга чалавека. Але ў фінале грозны вяршыцель лёсаў паўстае адзінокім і беспрытульным чалавекам, які знаходзіць спачуванне ў выпадковай жанчыны. Гэта дае чытачу маленькую крыху надзеі — на тое, што каханне можа ратаваць свет.

А ў свеце расце пагроза фашызму... Лагерквіст шмат піша аб неабходнасці змагацца са злом, супрацьпастаўляючы яму бясконцую сілу кахання. У 1934 годзе выходзіць кніга нарысаў «Сціснуты кулак». Аўтар гаворыць пра важнасць актыўнага гуманізму ў той час, калі квітнеюць таталітарныя рэжымы. Са сціснутым кулаком ён параўноўвае афінскі Акропаль — сімвал прыгажосці і культуры.

У 1940 годзе Пэр Лагерквіст быў абраны ў Шведскую акадэмію, а праз год стаў ганаровым доктарам Гётэборгскага ўніверсітэта. Напярэдадні новага, 1942 года, самага змрочнага года вайны, Лагерквіст звярнуўся да суайчыннікаў па радыё з прамовай, у якой заклікаў захоўваць пільнасць і надзею, змагацца і верыць у цуд.

У канцы таго ж года пісьменнік прыступіў да стварэння рамана «Карлік», які выйшаў у свет увосень 1944 года. Праз дзесяцігоддзе пасля «Ката» рэальныя сілы зла ў свеце паспелі выявіць свае сапраўдныя ўласцівасці і рысы. Лагерквіст хоча вывучыць прыроду зла ў чалавеку. Гэта дапамагае зрабіць дзённікавая форма тэксту: кніга ўяўляе сабой дзённік галоўнага героя — карліка, які ненавідзіць усіх вакол. Лагерквіст, які цікавіўся сярэднявечнай Італіяй, змяшчае дзеянне рамана менавіта туды. Карлік, які жыве без кахання і прыхільнасцяў, знаходзіць задавальненне толькі ў кровапраліцці. Сумленнасць, праява дабрыні і чалавечнасці здаюцца галоўнаму герою недазвальнай мяккацеласцю, а жорсткасць і подласць ён лічыць прыкметай сілы, розуму, ваеннай хітрасці.

У карліку бачылі намёк на Гітлера. Для Пэра Лагерквіста вайна — гэта спараджэнне зла ў чалавеку, і ўхваляць яе можа толькі чалавек з перакручанай душой «карліка».

У пасляваенныя гады пісьменнік працягваў звяртацца ў сваёй простай і лаканічнай прозе да міфаў і прытчаў, спрабуючы адказаць на галоўныя пытанні: пра дабро і зло, веру і бязвер'е, адзіноту і пошукі Бога. Галоўным творам Лагерквіста тых гадоў стаў невялікі раман «Варава» (1950), галоўны герой якога — вызвалены ад пакарання смерцю і памілаваны Понціем Пілатам разбойнік, прысуджаны да распяцця, але адпушчаны на волю па патрабаванні натоўпу наўзамен укрыжавання Хрыста. Характар і лёс Варавы ў рамане, безумоўна, з'яўляюцца аўтарскай выдумкай. Варава ў Лагерквіста — чалавек, які развіваецца, які змяняецца. Калі спачатку мы бачым цынічнага, бессардэчнага разбойніка, які абыякава назірае за пакараннем Хрыста, то пасля гэтага пакарання яго жыццё кардынальна мяняецца. Ён не можа ўсвядоміць, як такое магчыма — прынесці сябе ў ахвяру, і ўсё яго далейшае жыццё ператвараецца ў пошукі адказаў на гэтае ды іншыя пытанні. Варава праходзіць свой крыжовы шлях: аказваецца сасланым на капальні, дзе яму ледзь удаецца выжыць, сустракаецца з апосталам Пятро, і затым, абвінавачаны ў падпале ў Рыме, прымае сваю смерць на крыжы. Яго апошнія словы звернуты да Бога, хоць і не зусім зразумела, ці пачуў ён адказ, ці зразумеў, чаму людзі вераць у Хрыста. Але самае галоўнае, што ён шукаў веру: пошукі важней, чым вынік.

Французскі пісьменнік Андрэ Жыд прывітаў «Вараву» як безумоўны шэдэўр. Лічыцца, што Нобелеўскую прэмію Лагерквісту далі ў першую чаргу за «Вараву». Гэтая аповесць прынесла яму сусветную славу.

Пазней Лагерквіст напісаў яшчэ некалькі твораў на міфалагічныя і біблейскія сюжэты: аповесці «Сівіла» (1956), «Смерць Агасфера» (1960), «Пілігрым у моры» (1962), «Святая Зямля» (1964), «Марыямна» (1966).

«Марыямну» можна ўспрымаць як свайго роду эпілог да ўсёй творчасці пісьменніка. Цэнтральны матыў гэтай аповесці — каханне. Яна была створаная ў той год, калі Лагерквіст страціў каханую жонку, з якой пражыў многія гады, і, верагодна, гэтая асабістая трагедыя паўплывала на тую незвычайную сілу і непадробнасць пачуцця, якую можна ўбачыць у гэтым тэксце. Каханне жорсткага і дэспатычнага Ірада да юнай цудоўнай Марыямны няўхільна прыводзіць да гібелі гераіні, але працягвае «раздзіраць» тырана і пасля яе смерці. «Марыямна» — гэта гімн адзіноце, каханню і трагічнай гісторыі аб перамозе дабра і прыгажосці над дэспатызмам і злом.

...Творчы шлях Пэра Лагерквіста — даўжынёй у паўстагоддзе — дзівіць сваёй цэльнасцю і самабытнасцю. Пісьменнік памёр 11 ліпеня 1974 года ад паралічу ў стакгольмскай бальніцы ва ўзросце 83 гадоў.



## Помнік Васылю Стафаніку

У Каламыі Івана-Франкоўскай вобласці Украіны адкрылі помнік пісьменніку і грамадскаму дзеячу Украіны Васылю Стафаніку.

«На плошчы перад ліцэем № 1 адбылася важная падзея: урачыстае адкрыццё помніка выбітнаму пісьменніку, імя якога носіць навучальная ўстанова», — паведамілі ўкраінскія СМІ. Вядома, што ў гэтай гімназіі з 1883 па 1890 гады вучыўся Васыль Стафанік.

Праект помніка быў выкананы скульптарам Міхайлам Дзмітрывым яшчэ ў 80-х гадах мінулага стагоддзя па замове сына пісьменніка Кірыла. Аднак на той момант помнік належала было ўсталяваць у вёсцы Ясенаў Львоўскай вобласці. Для Каламыі, дзякуючы мецэнатам, помнік быў выкананы ў бронзе, як і планаваў у свой час скульптар.




Фота pik.net.ua

Васыль Сямёнавіч Стафанік — украінскі пісьменнік, майстар экспрэсіянісцкага рамана, грамадскі і палітычны дзеяч. Пасол (дэпутат) аўстрыйскага парламента ад Галічыны.

## Прэмія Цэнтра Гавела

У лістападзе ў Нью-Ёрку пісьменнік Салман Рушдзі атрымаў узнагароду Цэнтра Вацлава Гавела (Disturbing the Peace Award). Аўтар быў на прэзентацыі асабіста, але яго прысутнасць да апошняга трымалася ў сакрэце. (Летась у Нью-Ёрку ён перанёс напад, у выніку якога страціў зрок на правае вока і мае праблемы з рукой.)

Значную частку сваёй прамовы Салман Рушдзі прысвяціў ушанаванню Вацлава Гавела і назваў яго сваім героем, які «ўмеў быць і мастаком, і актывістам».

Прэмія Бібліятэчнага фонда Вацлава Гавела ўшаноўвае пісьменнікаў, што падзяляюць каштоўнасці правоў чалавека і якія падвяргаліся пераследу за свае перакананні, іншадумства і выклік рэпрэсіўнаму рэжыму.

## Прэмія імя Белага

Прэмія імя Андрэя Белага, найстарэйшая незалежная прэмія Расіі, у 2023 годзе ўручалася ў жалобных абставінах: пайшоў з жыцця апошні з яе заснавальнікаў — Барыс Астанін.

Прэмія сёлета прысуджана ў пяці намінацыях. Лаўрэатам у намінацыі «Паэзія» стаў паэт, празаік, літаратуразнаўца і крытык Даніла Давыдаў за кнігу вершаў «Ненадзейны апавядальнік», якую можна лічыць прыкладам таго, як філалагічныя веды і заняткі літаратурнай крытыкай дазваляюць паэту захоўваць свой унікальны голас, пазбягаючы спакусаў літаратурнай моды.

У намінацыі «Проза» лаўрэатам прэміі стаў мастак Ілля Далгоў за працу «Сцыяпаніка, праца ценяў. Паэтычны і практычны гід для грацыёзнага раслінаводства», дзе справаздача аб правядзенні мастацкага праекта ператвараецца ў грацыёзную медытатыўную прозу.

Надзея Плунгян была абвешчана лаўрэаткай у намінацыі «Гуманітарныя даследаванні» за шматгадовы праект па вывучэнні ролі жанчыны ў рускім мастацтве першай паловы XX стагоддзя. Вынікам гэтага праекта стала кніга «Нараджэнне савецкай жанчыны. Работніца, сялянка, лётчыца, “былая” ды іншыя ў мастацтве 1917—1939 гадоў».

У намінацыі «Літаратурныя праекты і крытыка» прэміяй адзначаны літаратурны часопіс «Флаги» і яго ініцыятар і галоўны рэдактар Міхаіл Бардуноўскі. Гэты часопіс створаны самым маладым пакаленнем рускай літаратуры і, як адзначыла журы, «за некалькі гадоў паспеў прапанаваць новы погляд на сучасную паэзію, стаўшы адным з лідэраў паэтычнай перыёдыкі».

Спецыяльная прэмія «За заслугі перад рускай літаратурай» была прысуджана філалагіні Таццяне Мікольскай, якая на працягу многіх дзесяцігоддзяў займаецца вывучэннем рускага авангарда і яго сувязяў з авангардам грузінскім.

Прэмія Андрэя Белага — найстарэйшая незалежная літаратурная прэмія ў Расіі, заснаваная ў 1978 годзе. У розныя гады яе лаўрэатамі былі Уладзімір Сарокін, Віктар Пялевін, Саша Сакалоў, Генадзій Айгі, Барыс Гройс, Юрый Мамлееў, Аляксандр Пяцігорскі і іншыя. Прэмія ўручаецца за наватарскія паэтычныя і празаічныя творы, за актуальныя гуманітарныя даследаванні.

## Прэмія імя Маршака

Лаўрэаткай Усерасійскай літаратурнай прэміі імя Самуіла Маршака ў галіне дзіцячай і юнацкай літаратуры ў намінацыі «Паэзія» стала Марына Зарубіна, паэтка, перакладчыца, аўтарка-выканаўца песень.

У намінацыі «Проза» лаўрэатакай стала Вольга Фадзеева з кнігай «Маленький бирюзовый автобус».

У намінацыі «Дэбют» прыз атрымала Ірына Данілава з кнігай «Платформа 0».

Усерасійская літаратурная прэмія імя С. Маршака існуе з 2004 года. Яе заснавальнікі — Саюз пісьменнікаў Санкт-Пецярбурга і Фонд «Дом дзіцячай кнігі».

### З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

# МОЖНА-МАЎЧАЦЬ-НЕЛЬГА, або пра ЭДУАРДА «БЕЗ РАДСТВА»

Агаломшыла — хоць гэта ў нашай цяперашчыне ўжо заканамерна і не нечакана, — лістападаўская публікацыя Ігара Шумейкі на сайце ГОДЛИТЕРАТУРЫ.РФ, назва якой: «Як якуцкая паэзія выратавала турэцкую мову. І пры чым тут слоўнік Эдуарда Пякарскага...».

Перачытайма ўрыўкі таго артыкула (у перакладзе):

*«Сярод прыкладаў супрацоўніцтва Расіі з Турцыяй ёсць адзін найважнейшы і нечаканы <...> сюжэт, які звязаў рускага філолага з заснавальнікам Турэцкай дзяржавы, які («рускі філолаг». — А. Н.) адзначае цяпер стагоддзе.*

*Правадыр Турцыі, якая прайграла Першую сусветную вайну, якая зрынула султана і ўладу мулаў, пачаў будаваць свецкую дзяржаву, але зразумеў: турэцкі лексікон уключаў тады цюркскія словы толькі самага прыземленага, сялянскага ўжытку. Усё, што адносіцца да інтэлектуальнага і духоўнага жыцця, паэзіі і літаратуры, было заменена арабскай — мовай Карана.*

*“Але мы ж не арабы!” — кінуў гнеўны лозунг Атацюрк і адправіў навукоўцаў па свеце “па згублены слоўнік”. Але толькі на іншым канцы Еўразіі знайшоўся вялікі праваслаўны цюркскі народ, які змог дапамагчы ў гэтай справе — якуты.*

*Атацюрк азнаёміўся са «Слоўнікам якуцкай мовы» акадэміка Эдуарда Карлавіча Пякарскага — і тут жа загадаў перакласці яго на турэцкую і выдаць масавым накладам. Гэтую працу выканала група <...> з 18 чалавек, і прадстаўленая ў 1937 годзе прэзідэнту Атацюрку праца была выдадзеная ў 12 тамах Турэцкім лінгвістычным таварыствам.*



Эдуард Пякарскі

*Разам з арыгіналам Пякарскага з асабістай бібліятэкі Атацюрка яны дагэтуль захоўваюцца ў музеі яго Маўзалея ў Анкары...». І яшчэ: «“Издалека завела речь” і аўтара слоўніка Эдуарда Пякарскага: з мястэчка Пятровічы (каля Мінска) — у Якутыю. Рашэнне маскоўскага губернатара (“прымаючы да ўвагі маладосць, легкадумнасць і хваравіты стан Пякарскага”) замяніла маладому рэвалюцыянеру катаргу “высылкай у аддаленыя месцы Сібіры”»...*

Словам, рускі філолаг Эдуард Карлавіч Пякарскі, маўляў, быў амаль што ашчаслівілены тым лёсам...

Атрымліваецца, што для «Года литературы. РФ», а найперш для названага аўтара беларусы на сёння — рускія! І — без «знаку якасці»... (У тэксце артыкула словы з коранем «Беларусь» наогул адсутнічаюць.) Але ж (пакуль што?) беларусы, як і іхнія продкі, як і той жа Эдуард Пякарскі, хоць і жыў у Расійскай імперыі, якая «ашчаслівіла» яго высылкай з радзіннай беларускай зямлі Ігуменшчыны ў Сібір, не перастаў ад таго быць беларусам!

Нагадаем: Эдуард (Эдвард) Пякарскі нарадзіўся 13 (25) кастрычніка 1858 года ў фальварку Пятровічы тагачасных Смілавіцкай воласці Ігуменскага павета Міншчыны (цяпер — Чэрвеньскі раён) у сям'і «высакародных» Караля (Карла) і Тэрэзы Пякарскіх, у дзявоцтве Дамашэвіч, каталіцкага веравызнання. Пасля смерці сваёй жонкі Караль Пякарскі аддаў яго на выхаванне ў сям'ю беларускага селяніна, але неўзабаве малога ўзяла да сябе ягоная родная цётка, якая жыла ў Мінску. Вучыўся ён у Мазырскай гімназіі, а на вакацыі ездзіў у бліжэйшае паселішча Барбараў да стрыечнага дзеда Рамуальда Пякарскага.

З паўгода правучыўся ў Мінскай гімназіі, але неўзабаве перавёўся ў Таганрогскую гімназію, дзе сышоўся з рэвалюцыйна настроенай моладдзю. Неўзабаве яго палічылі «стукачом», і ён, вытрымаўшы іспыты за 6 клас, змушаны быў пераехаць вучыцца ў Чарнігаўскую гімназію, дзе зноў далучыўся да «таемнага» гуртка. Увосень 1877 года паступіў у Харкаўскі ветэрынарны інстытут, з якога быў выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Харкаўскі акруговы суд прыгаварыў яго да адміністратыўнай высылкі ў Архангельскую губерню, але ён здолеў схавацца. Пад імем Івана Кірылавіча Пякарскага працаваў сельскім пісарчуком у Тамбоўскай губерні і «вёў прапаганду арганізацыі “Народная воля”» ў Тамбоўскім павеце.

Асцерагаючыся арышту, Пякарскі пад імем Мікалая Іванавіча Талуніна з'ехаў у Маскву, дзе перад Калядамі 24 снежня 1879-га быў усё ж затрыманы і прасядзеў каля года ў адзіночнай камеры Бутырскай турмы. Маскоўскі ваенна-акруговы суд прызнаў Пякарскага вінаватым і прысудзіў да «пазбаўлення ўсіх правоў стану і высылцы на катаржныя працы ў рудніках на пятнаццаць гадоў». Аднак маскоўскі генерал-губернатар (хоць ты падзякуй яму, дабраслаўнаму...) «прыняў пад увагу маладосць, легкадумства ды хваравіты стан» Пякарскага і пастанавіў: «Па пазбаўленні ўсіх правоў» саслаць на пасяленне ў аддаленыя месцы Сібіры».

Эдуард Пякарскі быў дастаўлены (за сем тысячаў вёрстаў ад Радзімы) у Іркуцк, затым — у Якуцк (яшчэ тысяча вёрстаў), у Батурускі ўлус, — пад «належны паліцэйскі нагляд».

Там вывучыў якуцкую мову, праз паўгода пачаў гаварыць на ёй, а затым і склаў згаданы вышэй слоўнік якуцкай мовы — які і патрапіў пазней на вочы першаму прэзідэнту Турцыі Мустафе Кемалю Атацюрку...

Як толькі Пякарскі атрымаў дазвол на пражыванне ў «еўрапейскай частцы Расійскай імперыі», ён у 1906 годзе выбраўся ў Пінск адведаць родных (бацька, з якім з прычыны высылкі не змог развітацца, памёр у 1900 г.). У лісце ён паведаміў жонцы: «Даехаў я да Пінска шчасна ў 2.30 гадзіны ночы. На вакзале мяне сустрэлі брат, маці і сёстры. І мы на двух рамізніках адправіліся ў горад — “дахаты”. Маці ад радасці амаль усю дарогу плакала. Пастарэла яна моцна, але не ў такой ступені, як я чакаў. Брат і сёстры зусім сталыя людзі, у параўнанні з якімі яны на дасланай раней картцы здаюцца дзеткамі...».

Ну а ў 1912 годзе за працы «Словарь якутского языка» і «Образцы народной литературы якутов» Пякарскі быў узнагароджаны Вялікім залатым медалём Імператарскага рускага геаграфічнага таварыства. А ў часы ўжо «неімператарскія» яго абіралі сябрам Польскага арыенталісцкага таварыства, Ганаровым акадэмікам АН СССР.

У гонар Эдуарда Пякарскага, «героя паўвекавой слоўнікавай працы», Ігідэйскі наслег Якуціі перайменавалі ў Пякарскаўскі. Аднак неўзабаве піцерская кватэра ганаровага акадэміка была ператвораная ў камунальную...

Памёр Эдуард Пякарскі ў 1934 годзе і быў пахаваны на Смаленскіх лютэранскіх могілках у Ленінградзе. Там пад час блакады ў 1942 годзе памерла і яго жонка...

Перад 150-годдзем з дня нараджэння вучонага ў Санкт-Пецярбурзе перавыдалі ягоны трохтомны слоўнік якуцкай мовы, які змяшчае 37000 слоў. На прэзентацыі выдання прамовіў прадстаўнік Генконсула Польшчы ў Санкт-Пецярбурзе, які адзначыў, што «палякі ганарацца сынам свайго народа Эдвардам Пякарскім, які напісаў выдатную працу». Афіцыйныя польскія дэлегацыі наведвалі Якуцк і яго магілу. Але пра консулаў Беларусі, краіны, на тэрыторыі якой нарадзіўся Пякарскі і якім мусяць найперш ганарыцца беларусы, анідзе не згадвалася... Як і пра афіцыйныя дэлегацыі з Беларусі...

Такім вось чынам Эдуард Пякарскі з беларуска-польскай крывёю стаў рускім... Добра хоць, што падобным чынам не «асучасніліся» ў згаданым артыкуле якуты...

***Аляксандар НАВАЖЫЛАЎ***

Літаратурная Беларусь
Адрас электроннай пошты:
**litaraturnaja.bielarus@gmail.com**
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах.